Адна зямля

Мядзел · Астравец · Смаргонь · Вілейка · Ашмяны · Маладзечна · ...кын · Мінск


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 канал

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

16 мая 2014 года №20 (994)




## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Адбыўся конкурс школьных тэатраў

**АСТРАВЕЦ.** Конкурс тэатральных пастановак школьных калектываў прайшоў на базе гімназіі № 1. Шэсць калектываў з раёна паказалі пастаноўкі на замежнай мове. Пераможцамі сталі акцёры з калектыву “Вясёлка”, якія прадстаўлялі гімназію. Іх пастаноўка на нямецкай мове “Хаос у казачным свеце” не пакінула абыякавым ні аднаго з членаў журы.

### Пакажуць слуцкі пояс

**МАЛАДЗЕЧНА.** У пятніцу, 16 мая, у Мінскім абласным краязнаўчым музеі адбудзецца ўрачыстая прэзентацыя слуцкага пояса. Плануюць прывезці падарунак прадстаўнікі праўлення Нацыянальнага банка. Яны падрыхтавалі серыю манет, на адной з якіх ёсць выява слуцкага пояса, які цяпер у Маладзечне. Пачатак імпрэзы а 15 гадзіне. Гасцей чакаюць у зале экспазіцыі.

**Аддзел інфармацыі.**



# Зачыняюць беларускамоўную школу ў Камарове



Фота Настассі РОЎДЫ.

Урок матэматыкі ў 11 класе Камароўскай школы. Злева направа: Арцём Сіманайць, Лізавета Горбач, Дар’я Алёшка. Гэта – апошнія выпускнікі школы ў Камарове.

**МЯДЗЕЛ. Сёлета на Мядзельшчыне закрываюць тры ўстановы адукацыі. Сярод іх – беларускамоўная Камароўская сярэдняя школа, дзе 38 вучняў. Што закрыццё школы значыць для вучняў, бацькоў і вёскі наогул, “РГ” распавялі мясцовыя жыхары.**

На гадзінніку сем раніцы. Мы ўязджаем у Камарова, спыняем мінака ды пытаемся, дзе тут жывуць Масцяніцы.

– Праехалі вы ўжо. Трэба было ў першы паварот на Міру, – падказвае нам мясцовы жыхар.

Паўхвілінкі – і мы на месцы. На вуліцы дождж, але людзі ўжо папрачыналіся і сям-там заўважны рух.

Нас сустракае гаспадар, **Франц Масцяніца**. Тут жа выходзіць гаспадыня, спадарыня **Вольга**. На руках жанчына трымае малое дзіця. Гэта **Данік**, якому ўжо паўтара годзіка.

Вольга запрашае нас на кухню, ставіць чайнік. Да нас падцягваюцца яшчэ двое дзяцей. Сярэдні, **Дзяніс**, цяпер у шостым класе камароўскай школы. Ён у касцюме, пры гальштуку, збіраецца ў школу.

**Дыяна, старэйшая, вучыцца ў дзявятым класе Свірскай школы. Год таму яе перавялі з Камароўскай. У школу ў роднай вёсцы яна хадзіла, пакуль не пачалі закрываць класы з адным вучнем.**

Дагэтуль дзяўчынка колькі гадоў займалася быццам з рэпетытарамі. Таму не дзіва, што, апынуўшыся ў класе разам з пятнаццаццю іншымі вучнямі, яе сярэдні бал знізіўся адразу больш чым на дзве адзінкі. Аднак прычына не толькі ў гэтым.

– Адразу было складана: новыя настаўнікі, рускамоўная школа. Некаторыя словы з падручнікаў нават даводзілася перакладаць са слоўнікам. А калі на занятках адказвала па-беларуску, то часта разумелі толькі настаўнікі. Ды і ўвогуле, загаворы ў Свіры на беларускай мове, то пачынаюць падсмейвацца.

Для Дыяны новыя аднакласнікі не такія ўжо і новыя. Дзяўчынкай яна хадзіла ў пачатковую Свірскую школу. Цяпер вучыцца з тымі самымі дзецьмі.

– Здараецца, што аўтобус зламаецца, – працягвае дзяўчынка. – Асабліва зімой. Тады мы сядзім у школе і чакаем, пакуль яго адрамантуюць. Калі нешта не атрымліваецца, могуць іншы прыслаць.

### У школу як на працу: ад 8 раніцы да 6 вечара

– Мы спрабавалі змагацца за тое, каб Дыяне дазволілі тут навучацца і далей, – распавядае Вольга. – Ездзілі да старшыні райвыканкама, але безвынікова.

– Мне не падабалася б вучыцца аднаму, – далучаецца да размовы Франц. – А вось дачка была вельмі задаволеная.

Цяпер школьніца выязджае з дому ў школу ў 8 гадзін раніцы. А вяртаецца ўжо бліжэй да шасці гадзін вечара. Свір хоць і знаходзіцца ў сямі кіламетрах, але пакуль кіроўца падбярэ па ваколіцах усіх вучняў, праходзіць з паўгадзіны. А 9-й гадзіне пачынаюцца заняткі.

**Настасся РОЎДА.**

**Працяг на 20-21 старонках.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

На першых занятках "Мовы Нанова – Мала93ечна" сабралася 60 ахвотных вучыць мову.

АДУКАЦЫЯ

# "Мова Нанова" прыехала ў Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Першыя заняткі бясплатных публічных моўных курсаў "Мова Нанова" прайшлі ў Маладзечне 7 мая.**

Заняткі сабралі 60 ахвотных пачаць размаўляць па-беларуску альбо проста пабавіць час у беларускамоўным асяроддзі. Тут былі як маладзечанцы, так і віляйчане. Не важна, з якога вы горада, калі маеце магчымасць прыехаць – далучайцеся.

Ужо на першай сустрэчы кожны даведаўся пра беларускія адпаведнікі сваіх імёнаў. Лізавета і Вольга сталі Альжбэтай і Вальжынай, Ганна – Ганкай ці Ганцяй, Юры – Юрасём.

Кожны папрактыкаваўся ў беларускіх хуткамоўках, пачуў галасы Коласа, Купалы, Барадуліна, Караткевіча.

Падзяліўшыся на каманды, наведнікі заняткаў прыдумвалі працяг прымавак. Некаторыя нават перавыканалі заданне і прадставілі публіцы цэлыя вершы. Самыя актыўныя атрымалі падарункі.

Напрыканцы сустрэчы наведнікаў чакала выступленне бард-спявачкі **Тацццяны Беланогай**, якая скончыла ў Маладзечне гімназію №6.

**Заняткі адбываюцца па чацвяргах у кафэ "Лівіа" (Вялікі Гасцінец, 143 б, гандлёвы цэнтр "Модуль", 4 паверх, уваход праз "Беларусбанк"). Пачатак а 19-й гадзіне. Уваход вольны.**

## Курсы прыехалі са сталіцы

Моўныя курсы з нефармальным падыходам да навучання распачаліся ў Мінску сёлета ў студзені.

У сталіцы іх нязменна праводзяць журналіст **Глеб Лабадзенка** і філолаг **Алеся Літвіноўская**. Штотыдзень заняткі збіраюць па 250-300 чалавек. Прычым узрост наведнікаў сягае ад 15 да 75 гадоў.

Глеб з Алесяй традыцыйна выступаюць на адкрыцці курсаў у кожным новым горадзе Беларусі. Таму вялі першыя заняткі ў Маладзечне менавіта яны.

Дарэчы, за гэты час да курсаў далучыліся Бабруйск, Баранавічы, Гродна, Нясвіж, Брэст, Магілёў, Гомель і нават Кракаў.

## Нашы вядоўцы

Далей курсы ў Маладзечне будуць весці менеджар беларускамоўных праектаў **Алесь Мазанік** і журналістка "Рэгіянальнай газеты" **Настасся Роўда**.

– Моўныя курсы "Мова Нанова" даюць магчымасць любому ахвотнаму падвысіць свой узровень валодання мовай ці нават пачаць яе вывучэнне з нуля, – распавядае Алесь. – У нашых школах падручнікі беларускай мовы называюцца "Родная мова". Аднак цяжка назваць роднай мовай тую, на якой не размаўляеш. Таму мы вырашылі, што трэба стварыць адмысловыя моўныя курсы, дзе вывучэнне будзе праходзіць у простай форме, але разам з тым мець акадэмічны складнік. Каб з кожнага занятку людзі маглі вынесці канкрэтныя веды.

**Для тых, хто не можа патрапіць на моўныя курсы, створаны сайт movananova.by, на якім можна азнаёміцца з тэарэтычным матэрыялам, выканаць практыкаванні і пачаць вывучэнне беларускай мовы анлайн.**

– Па адукацыі я – эканаміст-менеджар, спецыялізуюся на беларускамоўных праектах, стварыў інтэрнэт-краму www.imbryk.by, – прагаварвае Алесь. – Усё для таго, каб адшукаць патрэбную кнігу ці фільм па-беларуску было прасцей. Я перакананы, што шмат людзей хочуць ведаць беларускую мову ды размаўляць на ёй. Аднак ёсць пэўныя страхі, няўпэўненасць, проста складанасці ў пошуках нашамоўнай кампаніі.

Вы можаце далучыцца да курсаў у любы час і пачаць вывучаць мову разам з намі. Усю інфармацыю па занятках вы зможаце знайсці на нашым сайце і ў газеце. Таксама на сайце мы будзем змяшчаць фотарэпартажы і відэа з заняткаў.

Калі ў вас яшчэ засталіся пытанні, тэлефануйце ў рэдакцыю "РГ": **(80176) 76-96-67**.

**Аддзел інфармацыі.**







ТРАНСПАРТ

## Швейцарскія электрычкі ад 1 чэрвеня пусцяць па маршруце Мінск-Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА. Швейцарскія электрацягнікі "Штадлер" пусцяць ад Мінска да Маладзечна ад 1 чэрвеня.**

Хадзіць яны будуць два разы на дзень без прыпынкаў на маршруце.

№771Б: Мінск — Маладзечна, адпраўленне з Мінска ў 06:47, прыбыццё ў Маладзечна ў 07:42.

№771Б Маладзечна — Мінск, з Маладзечна ў 08:00, прыбыццё ў Мінск у 08:55.

№ 773/Б. Мінск — Маладзечна. Адпраўленне з Мінска ў 19:20, прыбыццё ў Маладзечна ў 20:15.

№774Б Маладзечна — Мінск. Адпраўленне з Маладзечна ў 20:25, прыбыццё ў Мінск у 21:20.

Час у дарозе — 55 хвілін, кошт білета 29 тысяч 100 рублёў (не ўключаючы тарыфныя зборы за афармленне праязных дакументаў).

**Паводле "Нашай Нівы".**

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

## 17 мая ў Вілейцы не будзе вады

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 17 мая, з 6 да 21 гадзіны ў горадзе спыняць падачу вады.**

Адбудзецца гэта ў сувязі з планавым рамонтам гарадскіх водаправодных сетак і абсталявання водазабору.

Будзе арганізавана забеспячэнне вадой. Набраць яе можна будзе па вуліцы Незалежнасці (раён крамы "Чыркава"), вуліцы Гагарына (крама №3, былая №26) і вуліцы Кастрычніцкай (крама №10, былая №25).

**Аддзел інфармацыі.**

ІМПРЭЗЫ

## Гальшанскія чытанні пройдуць 23 мая

**АШМЯНЫ. Шостая Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Гальшанскія чытанні" пройдуць па тэме: "Ашмяншчына: горад і валасць у гістарычным узаемадзеянні".**

Рэгістрацыя пройдзе ў будынку Ашмянскага райвыканкама з 9:30 да 10 гадзін (вуліца Савецкая, 103).

У праграме адразу чатыры выставы: фотавыстава "Ашмяны. Погляд праз стагодзі", выстава літаратуры "Культурная спадчына Ашмяншчыны ў гістарычным асяроддзі рэгіёна", выстава краязнаўцы **Васіля Юршы** "Гербы Ашмянскага павета" і "Археалагічныя знаходкі на тэрыторыі Гальшанскага замка".

У праграме – прэзентацыя кнігі доктара філалагічных навук, прафесара Адама Мальдзіса "Суайчыннікі".

Удзельнікам прапануюць наведаць Ашмянскі краязнаўчы музей імя Францішка Багушэвіча, а таксама музей мерыдыяна Дугі Струве.

**Паводле паведамлення Ашмянскага райвыканкама.**



Саджалка побач з Ушой стваралася як месца для купання.

| Курсы валют НБ РБ | 7.05 | 15.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 9 990,00 | **10 020,00** |
| Еўра | 13 900,00 | **13 740,00** |
| Злоты | 3 306,36 | **288,50** |
| Літ | 4 027,33 | **3 980,06** |
| Расійскі рубель | 280,00 | **288,50** |
| Грыўня | 855,67 | **843,79** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 6.05/15.05** | | |
| Еўра | 13860/13940 | **13700/13780** |
| Долар ЗША | 9980/10010 | **10000/10050** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 6.05 | 13.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45950 | **63600** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 24300 | **27800** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 79000 | **95000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | **28500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 34500 | **34500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 102000 | **102000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9700 | **9700** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9000 | **9500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13000** |
| **Алей "Кум"** | 14500 | **14500** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7800 | **8000** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 7500 | **10000** |
| **Капуста**, 1 кг | 11000 | **11000** |
| **Морква**, 1 кг | 8000 | **8000** |
| **Буракі**, 1 кг | 7000 | **7000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 26900 | **24900** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 13500 | **17900** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 26500 | **25500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 18500 | **18500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 20000 | **12500** |
| **Перац**, 1 кг | 35000 | **38800** |
| **Вінаград**, 1 кг | 35000 | **28500** |
| **Бананы**, 1 кг | 18500 | **17500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10900 | **10500** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 20900 | **25500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **45000** |
| **Бульба**, маладая 1 кг | 25000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |



● **ЗДАРОЎЕ**

# Не варта купацца ва Ушы і вадаёмах у Крыніцы і Насілава

**МАЛАДЗЕЧНА. Не варта купацца ў рацэ Уша і вадаёмах у Крыніцы і Насілаве.**

У раёне прадугледжана пяць месцаў для масавага адпачынку, дзе можна купацца. Зацверджаныя мерапрыемствы па навядзенні парадку на гэтых месцах. Купацца можна ў вадаёмах санаторыя "Сасновы бор", дома адпачынку "Алеся", фермерскай гаспадаркі "Цвецень" каля Хажова, Удранка каля Радашкавічаў непадалёк ад летніка "Маяк" і ў Беразінскім.

У першы тыдзень мая камісія, у склад якой уваходзілі прадстаўнікі Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі і арганізацыі "Беларускае таварыства выратавання на водах", даследавала зоны адпачынку. Тры з іх гатовыя прыняць наведнікаў хоць цяпер. Гэта пляжы ля вадаёмаў санаторыя "Сасновы бор", дома адпачынку "Алеся" і хажоўскай гаспадаркі "Цвецень".

На вадаёмах у Беразінскім і на Удранцы неабходна навесці парадак, адрамантаваць ценявыя навесы і прыбіральні.

Гарадскі пляж на Ушы не зацвердзілі як месца адпачынку і азадараўлення. Купацца ва Ушы каля Маладзечна не варта. Забарону купацца ад дзяржнагляду сёлета не адмянілі.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў на вадзе, не купайцеся ў неўзаконеных і недаследаваных вадаёмах. Няма гарантыі, што ў іх пад вадой не натрапіш на кучу бітых цаглін, высунуты прут арматуры ці не заблытаешся ў калючым дроце.

### Як не зламаць шыю

Падчас купання неабходна трымацца шэрагу правілаў.

1. Не скачыце ў ваду. Заўсёды трэба спачатку даследаваць дно. Пастаяннага рэльефу не бывае, таму такім чынам можна проста зламаць шыю.

2. Заходзьце ў ваду паступова. Целу трэба адаптавацца да халоднай аднасна паветра вадзе. Гэта абавязковая прафілактыка рэфлекторнага спынення сэрца. Яно можа спыніцца нават калі вы можаце дыхаць.

Падабныя патапленні медыкі называюць сухімі. Менавіта такім чынам памірае трэць тапельцаў за сезон. У такіх выпадках характэрная бледнасць скуры.

### Патапленне магчымае ўжо на зямлі

Сапраўдныя патапленні, ці мокрыя – пераважная большасць няшчасных выпадкаў на вадзе. Яны здараюцца таму, што ў лёгкія трапляе многа вады. Выратаваных людзей, якія наглыталіся вады, трэба абавязкова накіроўваць пад нагляд медыкаў.

Здараецца, што пацярпелыя сыходзяць з месца здарэння. Але існуе рызыка паўторнага патаплення. Развіваецца ацёк лёгкіх, які прыводзіць да трагедыі.

### Правілы, якія могуць выратаваць жыццё

Калі сутарга звяла нагу, на імгненне пагрузіцеся ў ваду. Распрастайце нагу, пацягнуўшы на сябе ступню, трымаючы вялікі палец.

Калі гэта не дапамажа, удыхніце пабольш паветра. Прыміце позу "паплаўка". Вельмі спакойна і павольна разагніце нагу рукамі. Патануць у такім становішчы вы не можаце. Галоўнае – не панікаваць.

Катэгарычна забараняецца купацца нецвярозымі, доўга быць у халоднай вадзе, адплываць далёка ад берага на надзіманых матрацах і кругах, калі не ўмееце плаваць.

Прывучыцеся ныраць з расплюшчанымі вачыма.

### Першая дапамога пацярпеламу

Калі хочаце дапамагчы чалавеку, як тоне, вазьміце з сабой надзіманы круг, каб лепш плыць.

Не падавайце руку чалавеку, які тоне. Ён схопіць яе мёртвай хваткай і вы самі не зможаце выплыць. Лепш развярніцеся і падайце нагу.

Калі чалавек учапіўся ў вас і скаваў рухі, нырніце глыбей – ён вас рэфлекторна адпусціць.

На беразе перагніце пацярпелага праз калена, каб яго галава была ніжэй за страўнік. Некалькі разоў цягам 10-15 секунд моцна націсніце зверху, каб вада выйшла з лёгкіх.

Потым не губляйце час на выдаленне вады: праз дзве хвіліны палова прэснай вады, што трапіла ў лёгкія, ўсмоктваецца ў кроў.

Праверце праходнасць дыхальных пуцей. Цяпер можна зрабіць дыханне "рот у рот" і непрамы масаж сэрца.

Каб выдаліць лішняе з трахеі, зафіксуйце кулак на пярэдняй брушной сценцы і рэзка націсніце на бакавую паверхню груднай клеткі.

Расціснуць зубы і адкрыць рот пацярпеламу можна, калі націснуць пальцамі на вуглы ніжняй сківаці. Спазм галасавых звязак можна зняць рэзкім удыханнем у нос.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, загадчык аддзяленнем камунальнай гігіены Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, старшыня пярвічнай арганізацыі "Беларускага таварыства выратавання на водах".**

● ЗДАРЭННІ

# Школьнік краў некалькі месяцаў запар

**ВАЛОЖЫН. Дзве бутэлькі гарэлкі, шпроты, шампанскае, калькулятар, ліхтарык, цыгарэты – усё гэта скраў валожынскі школьнік.**

15-гадовы хлопец жыў у Валожыне з бабуляй і татам. Яго мама пазбаўлена бацькоўскіх правоў. Вучыўся ў адной са школ Валожына.

Упершыню ён скраў у канцы лютага. Пасля першага ўрока спусціўся ў хол. На адной з канапаў стаяў партфель, у якім ляжаў мабільны тэлефон "Соні іксперыя". Гаспадыні яго купілі толькі ўчора, і яго адразу ж скралі.

З гэтым крадзяжом разабралася школа, тэлефон вярнуўся да гаспадыні.

Другая кража адбылася ў сакавіку, падчас вясенніх канікулаў. На ровары хлопец паехаў лавіць рыбу. Праз вокны ён глядзеў у чужыя дамы. Залез у гаспадарчую пабудову, якая была не замкнёная, а толькі на засаўцы. З ровара, які стаяў там, зняў зорачку, каб прыладзіць яе на свой.

**Потым хлопец адагнуў цвік у акне, каб трапіць у дом. Там ён знайшоў стары мабільны тэлефон, калькулятар і ліхтарык. Скраў гэтыя рэчы, а пасля іх выкінуў.**

Неўзабаве ён скраў у трэці раз. Нейк вечарам у той жа тыдзень канікулаў яму не спалася. Пайшоў да аднаго з дамоў. Там жыла дзяўчынка, з якой ён гуляў у дзяцінстве. Адтуль ён скраў цыгарэты і запалкі, а таксама мабільны тэлефон. Яго падарылі той самай дзяўчынцы на Новы год.

Ноччу на 4 красавіка ён трапіў да бабулі, якая жыве адна. Скраў шампанскае, дзве бутэлькі гарэлкі, кілбасу і шпроты. Усё гэта ён спажыў са сваімі знаёмымі.

Цяпер яго накіравалі на стацыянарную псіхолага-псіхіятрычную экспертызу. У адпаведнасці з заключэннем доктара будзе рашацца яго лёс.


Фота huffingtonpost.es.

15-гадовы хлопчык здзейсніў серыю краж. Ён жыў з бабуляй і татам. Мама пазбаўленая бацькоўскіх правоў.

**Юлія СЕЛЯТЫЦКАЯ,**
**старшы следчы Следчага аддзела Валожынскага раёна.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Асудзілі за парнаролікі ў сацсетках

**МАЛАДЗЕЧНА. Для размяшчэння ён выкарыстоўвай персанальны камп'ютар.**

Мужчына зарэгістраваўся ў адной з сацыяльных сетак. Свой акаўнт зрабіў агульнадаступным. У папцы "Мае відэазапісы" размясціў 21 відэафільм, якія рэспубліканская экспертная камісія палічыла парнаграфічнымі.

Да гэтых запісаў быў неабмежаваны доступ, іх неаднойчы прагледзелі і скапіявалі іншыя, невядомыя карыстальнікі.

У лютым суд маладзечанскага раёна прызнаў мужчыну вінаватым у захоўванні для распаўсюджання і рэкламаванне парнаграфічных матэрыялаў у інтэрнэце. Суд прызначыў пакаранне – пазбаўленне свабоды на два гады.

Суд улічыў асобу абвінавачанага, ступень небяспечнасці злачынства, станоўчую характарыстыку і іншыя фактары. Таму выкананне пакарання адклалі на год.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 2 класа.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Навучаць кіраваць матацыкламі

**МАЛАДЗЕЧНА.** Вучыць 16-гадовых юнакоў і дзяўчат кіраваць матацыклам будуць дзяржаўтаінспектары.

Калі маладыя людзі паспяхова здадуць экзамены па правілах дарожнага руху і практычным кіраванні матацыкла, ім выдадуць пасведчанне кіроўцы.

Ахвотных будуць рэгістраваць 16 мая на аўтадроме Маладзечанскага аддзялення Дабраахвотнай аб'яднанне садзейння авіяцыі, арміі і флоту. Адрас: Маладзечна, вуліца Віленская, д. 64. Тэлефон: **(80176) 73-48-00, 73-56-03, 74-53-45, 74-53-47.** Пачатак а 10 гадзіне.

Акцыю ладзяць з мэтай прафілактыкі і папярэджання аварый з удзелам матацыклістаў.

## Дзеці гінуць у аварыях

**МАЛАДЗЕЧНА.** Ад 12 да 21 мая дзяржаўтаінспекцыя Міншчыны праводзіць рэспубліканскую акцыю па прафілактыцы ДТЗ пад дэвізам "Дзіця – галоўны пасажыр".

На мэце гэтай акцыі – захаваць жыццё і здароўе маленькіх пасажыраў. Пераканаўча просім кіроўцаў трымацца правілаў дарожнага руху, пры перавозцы дзяцей карыстацца дзіцячымі крэсламі.

Сёлета ў 108 аварыях на дарогах Беларусі загінулі дзесяць і атрымалі траўмы 108 дзяцей. На Міншчыне загінулі чацвёра непаўнагадовых, параненых дваццаць.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Пенсіянеркі скралі бялізну і шторы з выставы

### Праз месяц яны вярнуліся і з той жа выставы зноў скралі шторы

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзве 65-гадовыя пенсіянеркі скралі рэчы з выставы, што праходзіла ў Лядовым палацы.**

Маладзечанкі схадзілі на выставу ў лістападзе.

Падчас выставы яны скралі два камплекты двухспальнай бялізны і два камплекты штор.

Праз месяц пенсіянеркі зноў прыйшлі на выставу у Лядовы. І зноў скралі два камплекты штор. Калі спрабавалі схавацца, іх злавіла відавочца злачынства.

**Адна з жанчын спрабавала збегчы разам са скрадзеным.**

Жанчыны патлумачылі, што ім абедзвюм спадабаліся камплекты штор і бялізны, але грошай, каб іх купіць, не было. Тады пенсіянеркі дамовіліся скрасці рэчы, дапамагаючы адна адной застацца незаўважанай.

У сакавіку па гэтай справе адбыўся суд. Адной з пенсіянерак прызначылі пакаранне – паўтара года абмежавання свабоды без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу, іншая атрымала два гады на тых жа умовах.

Матэрыяльны ўрон жанчыны вярнулі пацярпеламу цалкам.

**Вікторыя ПАЛЯШЧУК,**
**памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 3 класа.**

## Скасавалі здзелку бацькі, бо яна пагаршала жыллёвыя ўмовы сына

**МАЛАДЗЕЧНА. Такім чынам пракуратура абараніла інтарэсы непаўнагадовага. Па выніках здзелкі яго жыллёвыя правы былі б пагоршаныя.**

Адзін нядабранадзейны тата жыў разам з непаўнагадовым сынам у дзяржаўнай кватэры. Ён меў праблемы з камунальнымі службамі. Мужчына палічыў, што ў вёсцы будзе жыць і танней, і прасцей. Таму і вырашыў памяняць кватэру і паехаць жыць у вёску.

Знайшоў кліента, які хацеў набыць жыллё ў горадзе. Кліент купіў дом у вёсцы і бакі абмяняліся жыллём. Былы гаражанін пераехаў у вясковы дом. Але і яго праз некаторы час прадаў.

### Новы гаспадар зрабіў дарагі рамонт

На першы погляд, у сітуацыі ўсё ў парадку. Абодва бакі заключалі пагадненні па сваім жаданні. У дзяржаўных органаў, якія заключалі здзелку не ўзнікала ніякіх пытанняў. Юрыдычна і фактычна абмен адбыўся.

Новы гаспадар гарадской кватэры прыватызаваў новую маёмасць і зрабіў там дарагі рамонт.

Хутка ў пракуратуру звярнулася прабабуля непаўнагадовага дзіцяці, што жыў раней у гэтай кватэры. Пракуратура праверыла законнасць здзелкі. Падчас праверкі знайшлі істотныя парушэнні.

### Тата зняў дзіця з рэгістрацыі перад здзелкай

За два тыдні да заключэння здзелкі ў нарыуса дзіця знялі з рэгістрацыйнага ўліку з гэтай кватэры і зарэгістравалі ў іншым месцы. Як высветлілася, месца новай рэгістрацыі было непрыдатным для таго, каб там жыць. Гэта зрабілі, каб не звяртацца ў аддзел адукацыі па дазвол на адчужэнне жылля. Гэты дазвол бацька нарўад ці атрымаў бы.

Да таго ж, на судзе стала вядома, што за нераўнацэнны абмен тата атрымаў даплату. З пункту гледжання закону, гэта недапушчальна. Абмен мае бескарыслівы характар. У супрацьлеглым выпадку гаворка ідзе пра куплю-продаж, а не абмен.

### Здзелку прызналі бязвартаснай

Улічыўшы ўсё гэта, суд вырашыў задаволіць патрабаванні пракурора. Усе здзелкі па абмене жылля прызнаў бязвартаснымі, не маючымі юрыдычнай сілы.

Каб цалкам абараніць правы непаўнагадовага, суд патрабаваў, каб бакі вярнулі адзін аднаму ўсё, што атрымаў па здзелцы.

Новы гаспадар не пагадзіўся з прынятым рашэннем. Ён абскардзіў рашэнне суда. Але суд касацыйнай інстанцыі пакінуў рашэнне раённага суда ў сіле.

Гэты прыклад паказвае, што перад тым як прыняць значныя юрыдычныя рашэнні, варта ўсё дакладна прадумаць, праверыць, параіцца. І рашэнне не павінна супярэчыць закону.

**Дзяніс ГІРЛОЎСКІ,**
**памочнік пракурора Маладзечанскага раёна, юрыст 2 класа.**

● КОНКУРСЫ

# Ліст віляйчанкі да бабулі ў Сірыі сярод лепшых у конкурсе

**ВІЛЕЙКА.“Кожны дзень я слухаю музыку. Калі яна сумная, то перад маімі вачыма разыгрываюцца сцэны вайны.**

*Вось працяжная хуткая музыка – гэта нясуцца бамбардзіроўшчыкі. Яны бамбяць маю школу, бамбяць парк, у якім я з мамай і татам гуляла, бамбяць вуліцы, па якіх я хадзіла са сваімі аднакласнікамі, бамбяць дамы, крамы, заводы...”*

Не, гэта не вытрымкі з ліста часоў Вялікай Айчыннай вайны, гэтыя словы васьмікласніца з Вілейкі **Яра Кхаліфа** зусім нядаўна напісала бабулі ў Сірыю. І працягнула ліст:

*“Тэмп музыкі паскараецца – гэта нясецца хуткая дапамога. Гук сірэны хуткай дапамогі – гэта адзіная надзея для тых, хто ўжо страціў надзею. Загрымелі барабаны – гэта танкі! Тут пранёсся рэзкі голас скрыпкі, які раздзірае душу. Гэта плач і маленне дзяцей. Плач майго стрыечнага брата, у якога бацька пайшоў на вайну і змагаецца ў самай небяспечнай кропцы Сірыі. Плача татаў дзядзька: загінуў яго сын. Плачуць суседзі: адзін сын загінуў, другі ў палоне. Плача арабскі уд ... Плачуць людзі ...”*

З ім дзяўчынка на моладзевым рэспубліканскім эпісталярным конкурсе заняла першае месца на раённым этапе і атрымала трэцяе месца на абласным.



Фота забяспечана Ірынай БРАЦУК.

Вілейская школьніца Яра Кхаліфа напісала ліст бабулі ў Сірыю і стала прызёрам абласнога этапу эпісталярнага конкурсу.

### З-за вайны вярнуліся ў Беларусь

Яра нарадзілася ў Вілейцы – адсюль яе мама. Алена выйшла замуж за сірыйскага студэнта, які вучыўся ў Мінску. Калі Яры было два гады, сям'я паехала жыць Сірыю. А ўлетку прыязджала ў Вілейку – да бабулі і дзядулі.

У Сірыі сям'я з трыма дзеткамі (Яра і два меншыя браты) жылі ў Хомсе. Горад гэты цяпер стаў сумна вядомым: там адбыліся адны з самых крывапралітных баёў вайны, што развязалася ў Сірыі. З-за вайны і давялося ўсёй сям'і каля трох таму вярнуцца ў Беларусь.

Яра пайшла вучыцца ў шосты клас сярэдняй школы №3. Вядома, хваляваліся бацькі, як дачцэ ўдасца адаптавацца да новых рэалій. Да таго ж, размаўляць па-руску Яра магла, але ні чытаць, ні пісаць на рускай мове як след не ўмела.

– Нас так душэўна сустрэлі ў школе, – успамінае Алена, мама Яры. – Дырэктар **Мікалай Мікалаевіч Гіро**, настаўнікі так перажывалі за Яру, клапаціліся пра яе, распытвалі, як яшчэ ёй дапамагчы. Дзякуй ім усім.

Прайшло не так многа часу – і Яра дагнала аднакласнікаў у вучобе.

– Яра адчувае слова – гэта самае галоўнае. Ёй удалося так хутка вывучыць рускую мову, ухапіць яе нюансы, – расказвае настаўніца рускай мовы і літаратуры **Ірына Брацук**. – І па беларускай мове, і па іншых прадметах добра паспявае. Дзяўчынка таленавітая, выхаваная, актыўная, добрая, спагадлівая – залатое такое дзіця. Вельмі прыгожа чытае вершы – паспяхова ўдзельнічала ў школьным конкурсе чытальнікаў. У класе яе добразычліва сустрэлі, і яна заняла дастойнае месца ў ім.

Яры даспадобы, што ў Беларусі дзяўчаты і хлопцы вучацца разам. Бо ў Сірыі вучылася з аднымі дзяўчатамі (змешаныя класы былі толькі ў пачатку навучання). Здзівілі ўрокі працы – што тут за гэта ацэнкі ставяць.

– Камп'ютарызацыя ў Сірыі не такая развітая, там больш жывога кантактавання, дзеці больш кніжкі чытаюць, – падзялілася яна і такім назіраннем. – А ўвогуле мне падабаецца, што Беларусь – спакойная краіна. Тут добразычлівыя і гасцінныя людзі.

### Ліст да бабулі ў Сірыю

Нядаўна праводзіўся рэспубліканскі маладзёжны конкурс эпістолярнага жанру. Тэма яго: “Напішы ліст і раскажы, як музыка ўплывае на жыццё чалавека”.

– Вырашылі паўдзельнічаць, думалі, як штосьці цікавае напісаць, каб такога ў нікога не было, – працягвае аповед **Ірына Брацук**. – Яра сказала: “Давайце напішу ліст маёй бабулі Суад у Сірыю. Яна жыве ў такіх страшных умовах”. Сумны такі ліст атрымаўся, але душэўны.

Ацаніла гэта і журы. Ліст Яры заняў першае месца ў раённым этапе конкурсу і трэцяе – у абласным.

– Як вы думаеце, за кошт чаго гэты ліст высока ацанілі? – пытаю ў настаўніцы.

– Яра здолела сумясціць уплыў музыкі на чалавека і свой дзіцячы лёс і лёс дзвюх краін. Расказала, што ў яе дзве Радзімы. Беларусь – “краіна зялёных лясоў і блакітных азёр” і Сірыя – “цудоўная краіна, край гор, пустыняў і блакітнага мора”. І яна любіць абедзве.

Дарэчы, тэма музыкі блізкая дзяўчыне. Яна ў Сірыі вучылася іграць на фартэпіяна, стала прызёрам конкурсу на ўзроўні краіны. Цяпер працягвае навучанне ў Вілейскай дзіцячай школе мастацтваў, нядаўна пачала вучыцца яшчэ ігры на гітары. Зрэшты, пра гэта яна таксама напісала бабулі:

*“Мілая бабуля, памятаеш, ты заўсёды марыла, каб я гуляла на удзе. На жаль, у Беларусі гэты інструмент не распаўсюджаны, але ёсць падобны на яго – гітара. Бабуля, на канікулах я пабывала на выступленні ансамбля гітарыстаў “Адэліна”. Мяне ўразіла тое, як па-майстэрску яны валодаюць інструментам і як выразна ўмеюць выказваць свае пачуцці з дапамогай музыкі. Пасля гэтага мне вельмі захацелася навучыцца іграць на гітары”.*

Яра вельмі сумуе па Сірыі: багата родных засталося там. А весткі адтуль працягваюць прыходзіць сумныя: даведаліся, што загінула колішняя настаўніца дзяўчыны.

Ліст бабулі пакуль даслаць не ўдалося – краіна ў вайне. Але дзяўчына спадзяецца, што гэта ўдасца зрабіць. І тады бабуля акуратна дастане акуляры і ўважліва, па некалькі разоў перачытае шчырыя словы ўнучкі:

*“Бабуля, я абавязкова сыграю для цябе. Я прывязу табе музыку Беларусі, музыку дабра, любові і міру. Шчаслівейшай хвілінай маім жыцці будзе тая, калі я зноў ўбачу цябе і абдыму. Бабуля, музыка дае мне надзею, сілу, веру і любоў. Я не кажу бывай, я кажу да пабачэння.*

*З любоўю, твая ўнучка Яра з Беларусі”.*

**Даведка “РГ”. Уд** – музычны інструмент, распаўсюджаны ў краінах Закаўказзя, Еўропы, Блізкага Усходу і Магрыба. Папярэднік еўрапейскай лютні, а таксама гітары.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Цалкам ліст Яры чытайце на нашым сайце**

Rh.by

● КУЛЬТУРА

## “Ноч музеяў” у Вілейцы правядуць па модзе 70-х

**ВІЛЕЙКА. Мерапрыемства “Ноч музеяў-2014” – “Fashion night-70-х” пройдзе 18 мая ў зале выстаў імя Сілівановіча.**

У межах яго прэзентуюць выставу “Мода для народа. 1970-я”. На ёй пакажуць фотаздымкі, адзенне і тканіны, якімі карысталіся ў той час, паведаміла навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея Надзея Аўдзей.

Адбудзецца паказ мод. Гэта і рэтра-паказ, дзе віляйчане прадэманструюць адзенне тых гад, і паказ “Fashion girl” – тут ужо моладзь пакажа, як яна пераняла моду 70-х.

Будуць гучаць песні тых год.

Пачнецца мерапрыемства а 18 гадзіне. Уваход на яго вольны. У музеі запрашаюць ахвотных прыйсці ў адзенні таго часу, а тыя, у каго не атрымаецца, змогуць прымерацць штосьці з музейнай калекцыі.

... А ў Мядзеле будуць частаваць нацыянальнымі стравамі

**МЯДЗЕЛ.** У Мядзельскім музей народнай славы мерапрыемства пройдзе раней – у пятніцу, 16 мая. Называецца яно “Ноч музеяў – 2014. У азёрным краі, на адной зямлі...”

Наведвальнікі пабачаць тэматычныя выставы. Некаторыя з іх прадстаўлены пасольствамі розных краін у Беларусі.

У музеі пазнаёмяць з традыцыямі розных нацыянальнасцяў. Адбудуцца дэгустацыя нацыянальных страў, конкурсы, гульні, танцы.

Для дарослых білет каштуе 25 тысяч рублёў, для дзяцей – 10 тысяч. А каб наведаць мерапрыемства бясплатна, трэба прыйсці ў нацыянальных строях. Прычым, не толькі беларускіх, а і рускіх, яўрэйскіх ды іншых.

Пачатак свята – у 20 гадзін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КОНКУРСЫ

## У Вілейцы збяруцца майстры лозапляцення

**ВІЛЕЙКА. У суботу, 17 мая, на плошчы Леніна пройдзе шостае рэгіянальнае свята-конкурс “Лазовыя карункі”.**

У ім прымуць удзел больш за 40 майстроў лозапляцення з дзевяці раёнаў Мінскай вобласці. Цягам трох гадзін яны будуць ствараць твор з лазы. А журы вызначыць лепшых у розных намінацыях, паведаміла метадыст раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы **Тамара Тышкоўская**.

Пачнецца свята ў 11 гадзін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




# Праграма 14 Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-2014"

## 13-14 чэрвеня

**ПЕРШЫ ДЗЕНЬ (13 ЧЭРВЕНЯ)**

**Палац культуры ў Маладзечне**

12.00 – Другі тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

**Амфітэатр**

20.00 – **Урачыстае адкрыццё 14-а Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна – 2014"**

Трэці тур рэспубліканскага этапу Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні ў суправаджэнні Заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

**Канцэрт "70 год Перамогі"**

Заслужаны калектыў "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

*Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь,лаўрэат прэміі Саюзнай дзяржавы, прафесар* ***Міхаіл Фінберг****.*

Узнагароджванне лаўрэатаў Нацыянальнага конкурсу маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні.

**ДРУГІ ДЗЕНЬ (14 ЧЭРВЕНЯ)**

**Канцэртная зала Маладзечанскай дзіцячай музычнай школы мастацтваў**

11:.00 – Канцэрт акадэмічнай музыкі творчых калектываў Заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

**Малая зала Палаца культуры г.Маладзечна**

14.00 – паэтычная гасцёўня "**Каб любіць Беларусь...**" з удзелам беларускіх паэтаў.

**Канцэртная зала Палаца культуры Маладзечна**

16.00 – канцэрт сучаснай беларускай песні "**Песня мая**" з удзелам беларускіх кампазітараў, паэтаў, вядомых выканаўцаў краіны.

**Чысцінскі сельскі дом культуры Маладзечанскага раёна**

18.00 – Гала-канцэрт беларускай эстраднай песні ў выкананні Заслужанага калектыву "Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі".

**Цэнтральная плошча**

19.00 – Канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча

*Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор – народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прафесар* ***Міхаіл Дрынеўскі****.*

**Амфітэатр**

21.00 – **Закрыццё 14-а Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна – 2014".**

**Гала-канцэрт** "**Спадчына песняроў**", прысвечаны 45-годдзю Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры".

**Феерверк.**

**13 ЧЭРВЕНЯ (З 15.00 ДА 19.00),**
**14 ЧЭРВЕНЯ (З 11.00 ДА 19.00) працуюць:**

**Цэнтральная пляцоўка "Я песняй услаўляю Беларусь"** – канцэртная праграма творчых калектываў Маладзечаншчыны *(Цэнтральная плошча)*;

**Пляцоўка "Свет дзяцінства"** – гульнёва-забаўляльныя пляцоўкі для дзяцей *(гарадскі парк, кінатэатр "Радзіма")*.

**13 І 14 ЧЭРВЕНЯ (З 11.00 ДА 19.00) працуюць:**

**"Горад майстроў"** – выстава дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва народных майстроў і ўмельцаў горада і раёна, майстроў-гасцей фестывалю *(Цэнтральная плошча, вул.Прытыцкага і вул.Віленская);*

**"Купляйце беларускае"** – выставы-продажы тавараў народнага спажывання *(Цэнтральная плошча, вул.Прытыцкага і вул.Віленская).*

*У праграме могуць адбывацца змяненні.*

**Аддзел інфармацыі Палаца культуры ў Маладзечне.**

# Асцярожна! Лінія электраперадач!

**Паветраная лінія з'яўляецца крыніцай павышанай небяспекі. Як паказвае аналіз і статыстыка, колькасць няшчасных выпадкаў за апошнія гады ад паражэння насельніцтва электрычным токам не змяншаецца.**

Назіраецца рост няшчасных выпадкаў са смяротным зыходам пры лоўлі рыбы пад правадамі паветраных ліній, пра што сведчыць шэраг прыведзеных ніжэй інфармацыйных паведамленняў. Так, 27 ліпеня 2012 года жыхар г.п.Церахаўка Добрушскага раёна Гомельскай вобласці лавіў рыбу паблізу паветранай лініі напружаннем 10 кВ, наблізіў вуду на недапушчальную адлегласць да правадоў і быў смяротна паражоны электрычным токам.

14 чэрвеня 2013 жыхар Пастаўскага раёна пры лоўлі рыбы наблізіў вуду (або леску) да правадоў паветранай лініі напружаннем 110 кВ і быў паражоны электрычным токам. Дастаўлены ў бальніцу ў непрытомным стане з апёкамі 2-3 ступені твару, тулава, канечнасцяў (плошча пашкоджання цела склала 40 %), апёкавая хвароба, шок 1-2 ступені.

17 чэрвеня 2012 жыхар г.Мінска пры лоўлі рыбы на возеры паблізу в.Скамарошкі наблізіў вуду на недапушчальную адлегласць да правадоў паветранай лініі напружаннем 110 кВ і быў смяротна паражоны электрычным токам.

Ахова ліній электраперадачы ад пашкоджанняў з'яўляецца важнай дзяржаўнай справай. Пашкоджанне ліній электраперадачы выклікае перапынкі ў забеспячэнні электраэнергіяй прамысловых і сельскагаспадарчых спажыўцоў, населеных пунктаў, наносіць вялікую шкоду народнай гаспадарцы, можа прывесці да гібелі людзей.

Маладзечанскія электрычныя сеткі папярэджваюць кіраўнікоў калгасаў, арганізацый, прадпрыемстваў, грамадзян аб неабходнасці захавання «Правіл аховы электрычных сетак вышэй 1000 В» .

Вялікая колькасць пашкоджанняў ліній электраперадачы выклікаюць парушэнні правілаў праходжання работ паблізу або пад правадамі ліній электраперадачы, працы на трасах паветраных ліній стралявых кранаў, сельскагаспадарчых машын і механізмаў, лесанарыхтоўчых работ, збудавання ўсемагчымых аб'ектаў без ведаму электрасетак, падзенне дрэў на правады і т.п., а таксама іншыя прычыны (накіды на правады, наезды на апоры ліній электраперадач аўтатранспарту і сельскагаспадарчых машын, дакрананне да правадоў высокагабарытных механізмаў).

Для забеспячэння захаванасці, стварэння нармальных умоў эксплуатацыі электрычных сетак наладжваюцца ахоўныя зоны. Ахоўная зона паветранай лініі электраперадачы вызначаецца ўздоўж паветранай лініі электраперадачы ў выглядзе зямельнага ўчастка і паветранай прасторы, абмежаваных вертыкальнымі плоскасцямі, адлеглымі па абодва бакі лініі ад крайніх правадоў пры неадхіленым іх стане на адлегласці:

- 15 метраў для лініі напружаннем 35 кВ;
- 20 метраў для лініі напружаннем 110 кВ;
- 25 метраў для лініі напружаннем 220 кВ;
- 30 метраў для лініі напружаннем 330 кВ.

Зямельныя ўчасткі, якія ўваходзяць у ахоўныя зоны электрычных сетак, не адбіраюцца ў землекарыстальнікаў і выкарыстоўваюцца імі для правядзення сельскагаспадарчых і іншых работ з абавязковым захаваннем патрабаванняў «Правіл аховы электрычных сетак вышэй 1000 В».

**У ахоўных зонах паветраных ліній ЗАБАРАНЯЕЦЦА:**

- працаваць у пралётах паветранай лініі, дзе абарваныя правады, а таксама набліжацца да апораў, што маюць абарваныя правады і падвяргаюцца аднабаковаму цяжэнню, а таксама да саміх абарваных правадоў на адлегласць менш за 20 метраў;
- набліжацца да апораў паветранай лініі, якія маюць прыкметы замыкання на зямлю (разбураны ізалятар, абарваная вязка, вакол апоры выпарэнне вільгаці, пажар, раставанне снегу) на адлегласць менш за 20 метраў, а таксама працаваць у пралётах, якія прымыкаюць да гэтых апораў;
- здзяйсняць пад правадамі паветранай лініі праезд машын і механізмаў, якія маюць агульную вышыню з грузам ці без грузу ад паверхні дарогі больш за 4,5 метра;
- выкананне земляных работ на глыбіні больш за 0,3 метра, а на землях, якія ўзворваюцца, больш за 0,45 метра, на адлегласці менш за два метры ад апораў, падкосаў, адцяжак без пісьмовага дазволу уладальніка лініі;
- складзіраваць корм, угнаенні, салому, торф, дровы і іншыя матэрыялы, разводзіць агонь у ахоўных зонах паветраных ліній;
- лавіць рыбу;
- рабіць пасадку і высечку дрэў і кустоў;
- будаваць драцяныя агароджы для садоў, агародаў;
- прадпрымаць самастойна якія-небудзь меры па зняцці провада з машыны ўручную, у тым ліку і з дапамогай якіх-небудзь прадметаў;
- дакранацца да апораў, залазіць на іх або прывязваць да іх жывёлу;
- размяшчаць заправачныя станцыі і іншыя сховішчы гаручазмазачных матэрыялаў;
- размяшчаць палявыя станы, ладзіць загоны для жывёлы, а таксама паліваць сельскагаспадарчыя культуры;
- запраўка машын гаручым;
- праца стогаскладальніка пад правадамі паветранай лініі.

Асабліва небяспечнае сутыкненне машыны і механізма непасрэдна з провадам паветранай лініі. Гэта магчыма пры рабоце машыны пад паветранай лініяй, дзе можа здарыцца набліжэнне машыны на недапушчальна блізкую адлегласць да провада, абрыў провада і яго падзенне на машыну ці наезд машыны на абарваны провад.

Выкананне работ у ахоўнай зоне ВЛ з ужываннем высокагабарытных машын і механізмаў павінна здзяйсняцца па нараддапуску, які выдаецца тэхнічным кіраўніцтвам уладальніка машын і механізмаў. Допуск да работ па нарад-допуску робіць прадстаўнік электрычных сетак.

Машыны і механізмы трэба спыняць толькі па-за ахоўнай зонай паветранай лініі. Пры аварыйным спыненні любой машыны ў ахоўнай зоне паветранай лініі яна павінна быць выцягнутая з ахоўнай зоны на буксіры ў самы кароткі тэрмін.

Пры падзенні провада паветранай лініі на машыну кіроўца павінен неадкладна спыніць машыну. Калі пры гэтым магчыма вызваліць машыну ад абарванага провада перамяшчэннем машыны, то неабходна зрабіць гэта як мага хутчэй і паведаміць аб тым, што здарылася, у электрычныя сеткі. Калі няма такой такой магчымасці, відавочца павінен паведаміць аб тым, што здарылася, у электрычныя сеткі і да прыбыцця аварыйнай брыгады ні кіроўца, ні відавочца не павінны прадпрымаць ніякіх дзеянняў. Набліжацца да машыны на адлегласць бліжэй за 20 метраў забараняецца.

Калі ў выніку наезду на апору, падзення провада паветранай лініі або ўзнікнення электрычнага разраду машына загарыцца, неабходна тэрмінова яе пакінуць, але так, каб не было аднachасовага сутыкнення чалавека з машынай і зямлёй. Лепш за ўсё саскочыць на зямлю на абедзве сагнутыя ногі не трымаючыся за машыну. Аддаляцца ад машыны можна толькі скачкамі або «гусіным крокам», не адрываючы ступні ног адна ад адной, і зрабіць такім чынам шлях ад машыны на адлегласць не менш за 20 метраў. Да прыбыцця аварыйнай брыгады забараняецца прадпрымаць якія-небудзь дзеянні па тушэнні машыны.

**Пра здарэнне паведаміць у электрычныя сеткі па тэлефонах**:

(8-0176) 72-62-85, (8-0176) 72-65-36, Маладзечна, вул. Драздовіча, 27 або ў

- Маладзечанскія гарадскія электрасеткі - (8-0176) 74-70-70.
- Маладзечанскі РЭС - (8-0176) 76-46-14 , (8-0176) 72-65-67.
- Вілейскі РЭС - (8-01771) 5-56-65 .
- Валожынскі РЭС - (8-01772) 5-53-47, 144.
- Мядзельскі РЭС - (8-01797) 5-53-47.

Работы ў ахоўнай зоне паветранай лініі арганізацыі, прадпрыемствы і прыватныя асобы могуць наладжваць толькі пры пісьмовым дазволе і допуску Маладзечанскіх электрасетак.

Парушэнне «Правілаў аховы электрычных сетак вышэй за 1000 В» , якое выклікала або магло выклікаць перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, пашкоджанне электрычных сетак або прычыненне іншай шкоды народнай гаспадарцы цягне за сабой адміністрацыйную адказнасць. Згодна з Кодэксам РБ аб адміністрацыйных парушэннях (артыкул 20.3):

1. Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак РБ цягне за сабой папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры:
- на фізічную асобу - да 20 базавых велічынь;
- на індывідуальнага прадпрымальніка - да 50 базавых велічынь;
- на юрыдычных асоб - да 200 базавых велічынь.

2. Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак РБ, якое выклікала пашкоджанне электрычных сетак або перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, альбо прычыненне іншай шкоды, цягне за сабой накладанне штрафу ў памеры:
- на фізічную асобу - ад 20 да 50 базавых велічынь;
- на індывідуальнага прадпрымальніка - ад 20 да 100 базавых велічынь;
- на юрыдычных асоб - да 500 базавых велічынь.

Адміністрацыйнае спагнанне не вызваляе вінаватага ад пакрыцця матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым парадку.

Маладзечанскія электрычныя сеткі УНП 100071593

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ, АСТРАЎЦА І АСТРАВЕЦКАГА РАЁНА** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**166**

Рэгіянальная газета. Rh.by ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана — дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

# ВІНШАВАНКА

**З юбілеем ПЫРХА Алену Анатольеўну!**



*Мы все тебе желаем в юбилей*
*Здоровья, долгих дней, удач*
*и света,*
*Чтобы любовью близких и друзей*
*Душа твоя всегда была согрета.*
*Чтоб никогда тебе беды не знать,*
*Не пить из чаши*
*горького страданья,*
*И осеняла Божья благодать,*
*Все твои мысли, чувства и деянья!*

**Родныя, блізкія.**

17.05

УНП 600029502

Учреждение образования «Молодечненский государственный политехнический колледж» 17.05.2014 года в 10.00 ч. проводит

**«День открытых дверей»**

по адресу: *г.Молодечно, пл.Центральная, д.2.*
**Приглашаем всех желающих.**

**Размясці сваю аб'яву не менш за тры разы, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце** Rh.by

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**
Астравец - 01591,
Ашмяны - 01593,
Валожын - 01772,
Вілейка - 01771,
Маладзечна - 0176,
Мядзел - 01797,
Смаргонь - 01592.

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- AVIA-314, 1986 г.в., грузавы, + запчасткі, тэрмінова; Форд Эскорт, 1996 г.в., 1,8 TD, універсал. Т. (8-044) 5542855.
- Аўдзі-80, 1986 г.в., сіні, у добрым стане. Т. (8-033) 6873730.
- Аўдзі-80, 1990 г.в., 1,8 бензін, седан, 3400 у.а., торг. Т. (8-029) 5744493.
- Аўдзі-80, 1991 г.в., т/дызель, 3650 у.а. Т. (8-033) 6349863.
- ГАЗ-2410 па запчастках. Т. (8-029) 2694173.
- ДЭУ-Нубіра, 1998 г.в., 2,0 Б, серабрысты металік, універсал, добры тэхнічны стан, 3700 у.а., торг; Нісан Ване, 1995 г.в., 2,3Д, белы, 3500 у.а, Вілейка. Т. (8-029) 7005015, (8-029) 8622716.
- Кія Карэнс, 2000 г.в., 1,8 бензін, шэры металік, 6300 у.а., торг магчымы. Т. (8-029) 1685889.
- Кія-Рыа, 2000 г.в., 1,5 бензін, серабрысты, кандыцыянер, электрапакет, MP3, сігналізацыя, літыя дыскі, у добрым стане, 4500 у.а., Вілейка. Т. МТС (8-029) 8562320, Вэлком (8-029) 6637645.*
- Лада-Каліна, 2006 г.в., шэры металік, выдатны стан, прабег 59500 км, літыя дыскі, бартавы камп'ютар. Т. (8-029) 6262067.
- Мазда-626, 1992 г.в., 2,0 бензін, у добрым стане. Т. (8-033) 6380206.
- Масквіч-21-40, 1984 г.в., на ходу. Т. Вэлком (8-044) 4673240.*
- Міцубісі Карызма, 1998 г.в., 1,8 Б, АКПП, клімат-кантроль, сіні, 233 тыс.км, 5000 у.а. Т. (8-025) 6633462, (8-029) 6452287.*
- Нісан PATHFINDER, 2006 г.в., 4х4, усё акрамя скуры. Т. (8-029) 6262756, (8-029) 2505060.*
- Нісан Прымера, 1991 г.в., 1,6 Б, універсал, 5-МКП, сігналізацыя, ц/з, г/у, 306 тыс.км, 2 камплекты гумы, 2550 у.а., торг. Т. (8-029) 6463774.
- Нісан Кашкай, 2012 г.в., 1,6 Б, шэры. Т. МТС (8-033) 6616099.
- Нісан Пікса, 2010 г.в., бензін, з Германіі, добры стан, Вілейка. Т. Вэлком (8-029) 9375102.
- Нісан Прэм'ера P11, 1999 г.в., 2,0 ТД, серабрысты, хэтчбэк, новы АКБ, камплект шын, добры стан, 5200 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 3374530.
- Нісан Сані, 1991 г.в., аб'ём 1,4, па запчастках. Т. (8-029) 2791141.*
- Нісан Сані, 1993 г.в., 2,0 Д, 3-дзверны, добры стан, 2350 у.а. Т. (8-029) 9628918, (8-029) 9611886.
- Опель Астра, 1997 г.в., 1,7 ТД, універсал, бэжавы металік. Т. (8-029) 5625127.
- Опель Астра, 1997 г.в., універсал, 2000 у.а. Т. МТС (8-029) 2609044.
- Опель-Астра, 1992 г.в., дызель, 1,7, хэтчбэк, 2600 у.а., торг. Т. (8-029) 5744493.
- Опель Вектра B, 1996 г.в., 1,6 Б, колер сіні, Маладзечна. Т. (8-029) 6329461.
- Пежо Баксёр, 1996 г.в., 2,5 ТД, максібаза, Вілейка. Т. (8-029) 5772129.*
- Пежо Партнер, 2001 г.в., 1,9 TD, 5-дзверны, пасажырскі, у выдатным стане, 6000 у.а. Т. (8-029) 7763394.*
- Ровер-216, 1997 г.в., 1,6 бензін, белы, 143000 км, 3700 у.а., торг. Т. Вэлком 3602767, з 9.00 да 21.00, Астравец.
- Рэно Велсаціс, 2004 г.в., 2,2 СДІ, аўтамат, ёсць усё. Т. (8-029) 3437131.*
- Рэно Лагуна, 1998 г.в., 1,9 ТД, універсал, серабрысты, 3500 у.а., торг. Т. (8-029) 6696926.
- Рэно Лагуна-2, 2001 г.в., 1,9 ТДІ, блакітны металік, 6600 у.а. Т. Вэлком 3586217.
- Рэно Меган, 1996 г.в., 1,6 бензін, добры стан. Т. (8-029) 1455344.
- Рэно Меган-2, 2003 г.в., хэтчбэк, серабрысты, 6300 у.а., торг. Т. (8-029) 5086252.
- Рэно-Сцэнік, 1997 г.в., 1,6 Б, цёмна-сіні, 4750 у.а., Вілейка. Т. (8-029) 7062008.
- Сеат-Кардоба, 2006 г.в., 1,4 Д, седан, шэры, 7950 у.а. Т. (8-029) 6662068.
- Сітраэн Берлінга, 2000 г.в., 2,0 HDI, 4-дзверны, 6250 у.а. Т. (8-029) 2529399.*
- Сітраэн Ксантыя, 1998 г.в., 1,9 ТДІ, 4500 у.а., торг. Т. (8-044) 4873976.
- Сітраэн Ксара, 2002 г.в., дызель, універсал. Т. (8-029) 5719655.
- Сітраэн Ксантыя, 1999 г.в., 2,0 бензін. Т. Вэлком (8-044) 7951433.
- Таёта Карына Е, 1995 г.в., прабег 220 000 км, 1,6 бензін, сіне-зялёны перламутр. Т. (8-029) 5692913.*
- ФВ Пола Класік, седан, 1,4 бензін, 1997 г.в., серабрыста-зялёны, не патрабуе укладанняў, 4200 у.а., торг, Маладзечна. Т. (8-029) 5005264, 80336025191.
- ФВ Jetta, 2005 г.в., у выдатным стане, 11950 у.а. Т. (8-029) 6536317.
- ФВ Гольф, 1991 г.в., 1,6 Д, на ходу, 5 дзвярэй, можна на запчасткі, усе пытанні па тэлефоне (8-044) 4522788, (8-029) 8620027.
- ФВ Гольф, 2002 г.в., 1,6 бензін, універсал, зялёнага колеру. Т. (8-029) 7628027, (8-029) 5559324.
- ФВ Джэта, 1987 г.в., 1,6 бензін, белы, седан, МКПП, прывад пярэдні, 230000 км прабегу, 2100 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 8705129.
- ФВ Пасат B3, універсал, 3300 у.а., усе пытанні па тэл. МТС (8-033) 6645875, Станіслаў.*
- ФВ Пола, 1999 г.в., 1,6 Б, седан, 4800 у.а. Т. (8-029) 8540938.
- ФВ-Пасат, 1991 г.в., 1,8 мона, седан, бардовы, 3400 у.а. Т. (8-029) 7005321.
- Форд Мандэа, 1996 г.в., 2,0 газ-бензін, універсал, цёмна-сіні. Т. (8-029) 6543068.
- Форд Мандэо, 1994 г.в., 1,8 ТДІ, хэтчбэк, вішнёвы, добры стан, 2300 у.а. Т, (8-044) 5366170.
- Форд Транзіт, 1998 г.в., 2,5 Д, белы, халадзільнік, 4500 у.а., торг. Т. (8-029) 6133669.
- Форд Фіеста, 2003 г.в., 1,3 л, шэра-зялёны, хэтчбэк, бензін. Т. МТС (8-029) 5668725.*
- Форд Фокус, 2001 г.в., 1,8 дызель, хэтчбэк, вібаста, зялёны металік, 6300 у.а., торг магчымы. Т. (8-029) 6468125.
- Хонда Фіт, 2009 г.в., 1,5 Б, АКП, 10999 у.а. Т. (8-029) 9820207.
- Хундай Лантра, 1994 г.в., 1,5 бензін, светла-зялёны, 2500 у.а., Маладзечна. Т. (8-029) 2502036.
- Шкода-Феліцыя, 1999 г.в., 1,3 Б, зялёны, універсал. Т. (8-029) 6484248.
- Будка-ізатэрма на Газэль ці як бытоўку на дачу, нядорага. Т. (8-033) 6650561, (8-0176) 772330.*
- Гума летняя "Мішлен", 4 шт. Т. (8-029) 8540938.
- Запчасткі да ФВ B-3, бензін, дызель па запчастках. Т. МТС (8-029) 8777677, Вэлком (8-029) 6154346.*
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО (У Т.Л. ВАЗ); КРЫЛЫ, КАПОТЫ, ПАРОГІ, РАМ. УСТАЎКІ АРАК І ІНШЫХ ЧАСТАК КУЗАВА. А ТАКСАМА ЛЮСТЭРКІ, ГЛУШЫЦЕЛІ, БАМПЕРЫ, ПАДКРЫЛКІ І ШМАТ ІНШАГА.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Легкавы прычэп БЕЛАЗ 2011 г.в., 750 у.а., Мядзел. Т. (8-029) 9313242.
- Камплект летніх шын R14 - 150 у.а., 4 шт. Т. МТС (8-029) 8631039.
- Рухавік (ГАЗ-560), стаер, з усім навясным, б/у. Т. (8-033) 6012492.
- Сядзенні Пежо-807, 2 шт. Т. (8-029) 6548038.

## КУПЛЮ

- **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***
- **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***
- А/м 1988-2008 г.в., можна з дэфектамі, забяру сам. Т. Вэлком (8-029) 9164963.*
- А/м да 3500 у.а. Т. (8-033) 3711742.*
- А/м **ЛЕГКАВЫ** ці **БУС**. Разгледжу ўсе варыянты. Т. (8-033) 6008152.*
- А/м у добрым стане, для сябе. Дорага. Т. МТС (8-033) 3711756.*
- А/м у любым стане, можна бус, трактар, грузавы. Т. (8-033) 6510000.*
- А/м у любым стане, можна мікрааўтобус, грузавік, трактар. Т. (8-029) 5524004.*
- **А/М, ДАРАГА! Т. (8-029) 5016186.**
- А/м, любы, з любымі праблемамі. Т. Вэлком (8-044) 4706493.*
- Аўто ў любым стане, дарага. Т. Лайф (8-025) 9378887.*
- Матор для Жыгулёў. Т. Вэлком (8-044) 7125657.*

## ІНШАЕ

- **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У,** рухавікі да еўрапейскіх аўто з дастаўкай. ІП Фалей Д.В. УНП 691288730. Т. (8-033) 3352254.*

## ПАСЛУГІ

- Арэнда **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА** пад земляныя работы. Т. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*
- **МІНІ-ЭКСКАВАТАР, МІНІ-ПАГРУЗЧЫК. УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. **Т. (8-029) 6926052.***



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

● ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Нас чытаюць спагадлівыя людзі

**МАЛАДЗЕЧНА. Маленькае кацяня прыйшло да нас у рэдакцыю, каб трапіць у сям'ю чытачкі "Рэгіянальнай газеты" Кацярыны Лемешавай.**

Гісторыя пачалася ў сераду днём. У час перад абедам на нас літаральна звалілася гэтае дзіва. У падвальным памяшканні рэдакцыі нешта жаласліва пішчала. Маленькае кацяня, відаць, выпадкова звалілася ў падвал з вуліцы. Але кошкі нідзе побач не было.

Уся рэдакцыя тут жа распачала выратавальную аперацыю, у выніку якой да нас трапіў гэты шэранькі камячок. Ён яшчэ няўпэўнена трымаецца на сваіх маленькіх лапках, але смятану еў сам. Потым зусім самастойна памыўся і лёг спаць каля цёплага ноутбука аднаго з супрацоўнікаў рэдакцыі.

Інфармацыя пра нашага новага жыхара трапіла на сайт газеты і ў сацыяльныя сеткі. А восьмай гадзіне вечара прыйшло паведамленне: " Не магу застацца абыякавай да лёсу гэтага кацяняці, я яго забяру. У мяне, праўда, ёсць кот, але пакінуць на вуліцы безабароннае кацяня я не магу. Думаю, мая бабуля забярэ яго сабе. Тым больш, мне сказалі, што ён будзе добры паляўнік".

**Аддзел інфармацыі.**

# Адкрыццё прывялейскай Тупальшчыны

*Заканчэнне. Пачатак ў №17, 19.*

**У склад вясковай акругі ўваходзяць вёскі: Капачы, Ашмянец, Падовойка, Падстарынь, Пагарэлье і Сыраваткі, таксама засценкі Бялагор, Чорная Лужа, Няпро і Ашмянец, агулам у 1865 годзе 248 рэвізійных душ".**

Заслугоўвае нашай удзячнай памяці і факт нараджэння ў Тупальшчыне каталіцкіга святара ўсходняга абраду, генерала ордэна айцоў марыянаў, архімандрыта Андрэя Цікоты (1891 – 1952). Правёў ён тут свае дзіцячыя гады, адсюль у 1903 годзе выправіўся на вучобу ў Ашмянскае гарадское трохкласнае вучылішча, а потым у далейшы самастойны жыццёвы шлях. Трэба ўдакладніць, што цяпер родная хата вядомага каталіцкага святара знаходзіцца ў суседняй вёсачцы Плавушка. Верагодна, гэтая мясціна першапачаткова ўваходзіла ў Тупальшчынскі асяродак, а толькі з пачатку 20 стагоддзя займела сваю сучасную мілагучную назву.

## У Жодзішках жылі Бакшанскія

Па адным з сямейных паданняў, у другой палове 19 стагоддзя сюды з Расіі вярнулася Наталля Бакшанская, жонка аднаго з братоў Бакшанскіх, і асела ў маёнтку Жодзішкі. На мяжы стагоддзяў імя яе сына Осіпа ці Іосіфа Уладзіміравіча Бакшанскага можна знайсці на старонках"Памятных кніжак Віленскай губерні". У іх адзначана, што ён шматгадова з'яўляўся павятовым па "чыншавых справах прысутнасці" Свянцянскага ўезду, сябрам прыёмнай камісіі па ваеннай павіннасці. Папячыцель з 21 красавіка 1895 года гарадской бальніцы ў Свянцянах дваранін Іосіф Бакшанскі адукацыю атрымаў у гімназіі, быў праваслаўнага веравызнання і гаспадарыў ва ўласным маёнтку Тупальшчына.

Ажаніўся з Анэляй Івашкевіч, у іх нарадзіліся сыны Іван, Яўген, Уладзімір, Анатоль і Міхаіл. Іван і Яўген Бакшанскія загінулі ў гады Першай сусветнай вайны, а астатнія браты вярнуліся на спадчынныя землі ў пачатку 1920-х гадоў мінулага стагоддзя. Міхаіл Бакшанскі асеў у маёнтку Рэвутка каля вілейскай Нарочы, жодзішкаўскі маёнтак развіваў брат Анатоль, а ў Тупальшчыне гаспадарыў брат Уладзімір. Пра апошняга ўладальніка тупальшчынскага маёнтка вядома наступная жменька біяграфічных фактаў.

Нарадзіўся ён тут у 1881 годзе. З 1907 года да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года служыў у Рускай Імператарскай арміі. У чыне падпалкоўніка Уладзімір Бакшанскі вяртаецца ў Тупальшчыну, каля якой за гады імперыялістычнай вайны былі пабудаваныя магутныя бетонныя апоры чыгуначнага маста, праляглі шматлікія стужкі вузкакалеек, побач з сядзібай закладзены паром праз Вяллю.

## Прыязджалі адпачываць з Варшавы і Вільні

Былы вайсковец пачынае ўзнаўляць гаспадарку, якая ў самым сваім росквіце складалася з 7-8 коней, 12-15 кароў, 120 гектараў зямлі. Дапамагаюць яму яе весці 4 пастаянныя і 14-15 сезонных рабочых. Дбайны гаспадар закладвае ў маёнтку млечарню, ці прадпрыемства па перапрацоўцы малака, адначасова стварае малочны кааператыў. Значны прыбытак прыносіць развіццё аграсядзібнага бізнесу. Варшаўскі краязнаўчы штомесячнік "Зямля" у ліпені 1938 года адзначыў папулярнасць Тупальшчыны, куды на адпачынак "прыязджаюць госці з Варшавы, Кракава, Познані і Вільні". За кошт ахвяраванняў адпачываючых у Тупальшчынскім пансіянаце быў адліты 40 кілаграмовы звон для недалёкай Дубоцкай Кальварыі, а для помніка на магілках у Жодзішках была зробленая шыльда.

## Трагічны лёс пасля вайны

Падзеі Другой сусветнай вайны разбурылі не толькі тутэйшы лад жыцця, але трагічна адбіліся на лёсе ўсёй сям'і Бакшанскіх. Капітан артылерыі Уладзімір Бакшанскі ў верасні 1939 года быў прызваны ў Польскае войска і ў хуткім часе інтэрніраваны літоўскімі ўладамі.

**Пасля арышту, у час следства, заявіў, што "на сваёй уласнай зямлі ўвесь час праводзіў барацьбу з рэвалюцыйнай агітацыяй.**

Адмоўна адносіўся да Савецкай улады, так як яна адабрала ў яго ідэнтычнасць, добрае імя і маёмасць". У Віленскай турме 19 снежня 1940 года быў складзены прысуд, па якім яго саслалі на 5 год у Джамбульскі раён Казахстана, дзе ён і памёр ад тыфу ў сакавіку 1942 года.

Пасля стварэння восенню 1939 года на базе маёнтка Тупальшчына калгаса лёс выгнанікаў напаткаў родных Уладзіміра Бакшанскага. Яго жонку Элеанору вясной 1940 года "як памешчыцу" асудзілі на 8 год зняволення. Спачатку адбывала пакаранне ў турме, потым была высланая ў Магадан. За ўдзел у фарміраваннях Арміі Краёвай у снежні 1944 года былі арыштаваныя браты Альгерд і Януш Бакшанскія і асуджаны на 10 і 8 год зняволення. Адбывалі пакаранне на Калыме і ў Алтайскім краі, пасля чаго выехалі ў Польшчу. У польскі горад Свебодзін выехала ў 1946 годзе дачка Ірэна, дзе ўжо знаходзілася пасля вяртанне з сылкі яе маці Элеанора Бакшанская. Так незайздросна склалася ў гэты перыяд жыццё родных апошняга ўладальніка тупальшчынскага маёнтка.



Сям'я Бакшанскіх на фоне галоўнага ўвахода ўсядзібу.

## Стала калгасам і знікла

Жорсткія выпрабаванні прыпалі таксама на лёс самога маёнтка і застаўшыхся ў ім жыхароў. Пасля стварэння тут у 1939 годзе калгаса ў хуткім часе частка маёмасці была нацыяналізаваная, падзелена і паступова знікла. Са з'яўленнем нямецкіх акупацыйных улад у гэтым кутку краю аднаўляецца гаспадарчая дзейнасць маёнтка, часткова вяртаецца ў Тупальшчыну маёмасць, якая была разбараная па мясцовых гаспадарках. Немцамі вясной 1942 года тупальшчынскім адміністратарам прызначаецца Гіляры Глушак. Як адзначала ў сваіх успамінах "Уцёкі ад Халакосту" Эмануэла Цунг, якой прыйшлося ў гады вайны хавацца ад нацысцкага праследу ў тутэйшых мясцінах, у суботнюю ноч з 6 на 7 сакавіка 1943 года на маёнтак Тупальшчына напалі бандыты і "аграбілі ўсё, што маглі, а Гіляра Глушака застрэлілі". Праз некалькі тыдняў пасля гэтай сумнай падзеі рабаўнікі прыйшлі сюды ізноў і спалілі вельмі прыгожую сядзібную пабудову на стромкім правым беразе Вяллі.

## Партызаны і бандыты

У далейшым ячшэ неаднойчы жыццё мясцовых людзей гэтага паселішча падвяргалася гвалту і рабункам. У лютым 1944 года сюды наведаліся партызаны Арміі краёвай, якія атрымалі звестку аб тым, што ў маёнтку жыла сям'я інфарматараў савецкіх партызан. Муж і жонка мелі псеўданімы"Аўтамат" і "Каліна", збіралі звесткі пра паромную пераправу праз Вяллю каля маёнтка, і гэтага было дастаткова для планумеай расправы. Выратавалі іх ад трагедыі двое маленькіх дзетак, якія ў гэты час знаходзіліся ў хаце і якіх краёўцы пашкадавалі разам з бацькамі. У хуткім часе пасля небяспечнай сустрэчы перапалоханая сям'я назаўсёды пакінула маёнтак.



Уладзімір Бакшанскі.

Больш драматычна скончылася сустрэча з бандытамі ў Тупальшчыне пасля вызвалення краю ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У сакрэтнай "Дакладной запісцы сакратара Свірскага райкома КП(Б)Б Мартыненка сакратару ЦК КП(Б)Б П.К.Панамарэнка аб выпадках тэрору і забойствах у раёне "ад 3 сакавіка 1945 года паведамлялася: "...27. 3.1945 г. у 9 гадзін вечара ў в.Тупальшчына Выгалентскага с/с групай бандытаў быў забіты ўпраўляючы канторай Свірскага маслапрома т.Сіняўка Васілій Сідаравіч, які да растрэлу быў падвергнуты зверскім цялесным пакутам. У яго было адрэзана левае вуха і збіты ўвесь твар.

Адначасова з ім загінулі два таварышы, накіраваныя на працу ў Свірскі р-н у сістэму маслапрома – т.Смычкоў і яго жонка. Бандай таксама ўзламаны маслазавод у в.Тупальшчына. Малочныя прадукты, якія знаходзіліся на маслазаводзе, а таксама посуд былі забраны бандай".

## Перастала існаваць

У пасляваенны час ячшэ неаднойчы чорныя хмары трывогі навісалі наджыццёвымі клопатамі жыхароў мясціны. Паступова наладзілася больш лёгкае жыццё ў гэтым кутку Смаргоншчыны. Але з цягам часу, без дбайнага гаспадарчага падыходу, пры абыякавых адносінах да маёмасці былых уладальнікаў, з працэсам урбанізацыі і сыходу моладзі з вёсак, Тупальшчына траціць свае значэнне і патэнцыял. Забудова пакрысе разбураецца і разбіраецца, пакуль ў 1971 годзе на хутары не застаецца ніводнай жылой пабудовы. Тупальшчына перастае існаваць як паселішча.

Сёння захавалася ад сядзібы рэштка падмуркавага пагорка, які густа парос хмызняком. Дзе-ніdзе праглядаюцца напаміны сцежак і адзінкавыя дрэвы той пары. Пра былую мясціну са шматгадовай гісторыяй могуць нагадаць і развалiны мураванай капліцы-пахавальні Бакшанскіх. Уражваюць наведвальнікаў магутныя бетонныя "разакі" нямецкага чыгуначнага маста Першай сусветнай. Быццам вартавыя, яны надалей выпраўляюць воды Вяллі ў вечнае падарожжа да Балтыйскага мора. А як вядома, ні рака, ні хуткаплынны час спыніцца не могуць.

**Уладзімір ПРЫХАЧ, Смаргонь.**

## КАЛЯНДАР

**16 мая.** 90 год таму выйшаў першы нумар часопіса "Мурзілка".

***

**17 мая.** У 1985 годзе апублікаваная пастанова, паводле якой распачалася антыалкагольная кампанія ў СССР.

***

**У 1686** годзе Рэч Паспалітая і Расія заключылі "Вечны мір".

***

**У 1918** годзе пачалася грамадзянская вайна праз паўстанне Чэхаславацкага корпуса ў Сібіры.

***

**18 мая.** У 1888 годзе нарадзілася Ганна Барысевіч, сусветная доўгажыхарка. Пражыла 118 год. Апошнія гады жыла ў Мінску.

***

**У 1920** годзе каля Кракава нарадзіўся будучы Папа Рымскі Ян Павел ІІ.

***




**У 1910** годзе пайшла з жыцця беларуская пісьменніца Эліза Ажэшка.

**210 год** таму Напалеон стаў імператарам Францыі.

***

**19 мая.** 70 год таму заснаваны Дзяржаўны музей імя Янкі Купалы.

***

**20 мая.** У 1932 годзе на сходзе пісьменніцкага актыву СССР увялі тэрмін "сацыялістычны рэалізм".

***

**21 мая.** 150 год таму адбыўся апошні бой чаркескага аддзела з расійскім войскам падчас Каўказскай вайны, яе заканчэнне. Дзень генацыду чаркескага народу, учыненага Расійскай імперыяй.

***

Сусветны дзень космасу.

***

**110 год** таму заснавалая Міжнародная асацыяцыя футбола.

***

**22 мая.** 222 гады таму Ашмяны атрымалі герб. Геральдычны сімвал надаў месту Кароль Польскі і Вялікі князь Літоўскі Станіслаў Панятоўскі.

***

Міжнародны дзень біялагічнай разнастайнасці.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Зачыняюць беларускамоўную школу ў Камарове

*Працяг. Пачатак на 1-й старонцы.*

**МЯДЗЕЛ. Сёлета на Мядзельшчыне закрываюць тры ўстановы адукацыі. Сярод іх – беларускамоўная Камароўская сярэдняя школа, дзе 38 вучняў. Што закрыццё школы значыць для вучняў, бацькоў і вёскі наогул, “РГ” распавялі мясцовыя жыхары.**

**– Ці дамагаліся вы, каб у Свірскай школе з’явіліся беларускамоўныя класы?**

– Пра гэта ўвогуле гаворка не ішла, – кажа Вольга. – А вось за тое, каб школу нам пакінулі, змагаліся. І подпісы збіралі, і пісалі ў Міністэрства адукацыі, і размаўлялі з мясцовымі ўладамі. Мабыць, дарэмна. Кажуць, што нявыгадна: мала вучняў і шмат настаўнікаў. А грошы ўсім плаціць трэба.

Цяпер у класах Камароўскай школы па пяцьшэсць вучняў.

– Школа недзе ў 15 хвілінах пешшу, – распавядае Дзяніс. – У мяне ў класе чатыры хлопчыкі і дзяўчынка. Вучыцца тут падабаецца. Я не толькі прадметамі займаюся, але і выпальваю на дошчачках машыны. Праўда, выклікаюць на занятках часта.

– Гэта ж вельмі важна! – уключаецца Вольга. – У дзяцей выпрацоўваецца адказнасць. Яны прывыклі вучыць урокі кожны дзень. Гэта не тое, што ў класе з 20 вучнямі. Калі дзеці думаюць: “Ага, сёння выклікалі, значыць, заўтра не спытаюць. Можна не рыхтавацца”. А тут яны мусяць займацца. На самой справе, Дзяніс вельмі перажывае, што яму давядзецца перайсці ў іншую школу. Часта мне кажа: “Мама, як я там буду?”

На кухні на хвілінку ўсе замаўкаюць.

– Пра нашу школу можна гаварыць і гаварыць, – прамаўляе Вольга. – Шкада, што яе зачыняюць. Усе бацькі супраць, але гэта нічога не мяняе. Дзеці выходзяць пасля яе вельмі разумныя, адукаваныя. І настаўнікі ў нас цудоўныя. А якая добрая дырэктарка школы! Вы хаця напішыце, бо такі цудоўны чалавек, якіх пашукаць трэба. Вельмі спагадлівая жанчына, кожны раз прыходзіць на дапамогу.




**Сям’я Масцяніцаў з Камарова. На першым плане самы малодшы – Данік. За сталом сядзяць Дыяна з татам Францам. За імі стаіць гаспадыня Вольга.**

## Збудавалі дом, каб дзецям было куды ў школу хадзіць

Вольга цяпер у дэкрэтным адпачынку, а Франак працуе вартаўніком у вучылішчы. Маюць трактар, апрацоўваюць 20 сотак бульбы, свіней трымаюць.

– Гэты дом мы збудавалі гадоў дзесяць таму. Сама я з Ашмян, а Франц – з вёскі Багацькі, што паблізу, – распавядае гаспадыня.

– Там ужо практычна нікога не засталося, – дадае Франц. – Некалькі дамоў. Давялося будаваць жытло тут, каб дзецям было куды ў школу хадзіць. Бо калі я сам вучыўся, нас таксама вазілі. За тры кіламетры ў Канстанцінава. Каб вазіць багацькаўскіх дзяцей у школу, асобную машыну выдзялялі. Цяпер там ужо нікога няма, лес адзін ды пара лецішчаў. Раней жа больш за 30 жылых дамоў было.

Лёс Багацькаў паўтарыла Канстанцінава, цяпер паўтарае Камарова. Няма школы – і ўсе імкнуцца пераехаць туды, дзе дзеці змогуць вучыцца побач з домам.

– Я гатовы жыць у Багацьках, мне там нават лепш, – прызнаецца гаспадар. – Але мы спяшаліся як мага хутчэй збудаваць дом, каб хаця дзецям было як вучыцца.

## У Венцавічах вучылі адну дзяўчынку

Праводзіўшы Дзяніса ў школу, мы едзем у Багацькі, родныя мясціны Франца. Праехаўшы амаль усю вёску, мы ўжо не спадзяваліся ўбачыць жывую душу.

Разваленыя, закінутыя дамы, у некаторых забітыя вокны. Але вось наперадзе заўважаем жанчыну, якая выйшла зірнуць, што за машына гудзе.

Як высветлілася з размовы, **Леакадзія Яцына** сама вучылася некалі ў суседняй вёсцы, у Венцавічах. І была адна на ўсю школу.

Цяпер у Багацьках толькі ў двух дамах ёсць жыхары. А на лета ўжо больш людзей прыязджае. Хто з Вільні, хто яшчэ адкуль-небудзь.

У Канстанцінаве можна пабачыць тое, што засталося ад былой школы. Драўляны будынак з забітымі вокнамі, з даўно выцвілай фарбай стаіць проста ля дарогі. Сюды і вазіла машына багацькаўскіх хлапчукоў ды дзяўчат на заняткі.

## Тут збіралася інтэлігенцыя

У Камарове, куды вяртаемся праз пару гадзін, спыняемся побач са школай і ідзем да галоўнага будынка. Іх тут некалькі. У адным займаюцца вучні сярэдняй і старэйшай школ. У другім месцяцца малодшыя класы. У трэцім дзеці харчуюцца.

Перапынак. У калідоры ля ўваходаў у кабінеты гуртуюцца дзеці. Чутны іх смех.

Гісторыя школы даўняя. Камароўская школа, раней Куцькаўская, існуе ад 1935 года.

Школа месцілася ў драўляным будынку, які сёння прызнаны помнікам архітэктуры. Як распавяла дырэктарка камароўскай школы **Таццяна Урбановіч**, гэта некалі была польская школа, вельмі прыгожая, у цудоўным месцы, з вялікім садам. Аднак санітарна-гігіенічныя ўмовы не адпавядалі сучасным стандартам. Цяпер былы будынак школы здадзены ў арэнду, ён пустуе.

Калі 20 гадоў таму спадарыня Таццяна прыйшла працаваць, было 158 вучняў. Калі ж школа ў 2007 годзе пераехала ў новы будынак, вучняў было ўжо 72.

Цяпер у школе 38 вучняў. З іх восем прыязджаюць з суседніх вёсак. На пачатку навучальнага года было 42 вучні. Чацвёра маленькіх казахаў вярнуліся са сваімі бацькамі на радзіму. Прыехала сям’я два гады таму, збіраліся займацца конегадоўляй. Але маме не падышоў клімат.

– А сям’я вельмі прыстойная, бацька нават піва ніколі не ўжываў. І дзеці іх вельмі хутка адаптаваліся, літаральна за месяц. Пасябравалі з мясцовымі. З мовай таксама праблем не было, – прыгадвае спадарыня Таццяна.

Настаўнікаў у Камарове 17. Адзін з іх знаходзіцца ў сацыяльным адпачынку па догляду за дзіцем. Два з іх – пенсіянеры. 87 працэнтаў настаўнікаў маюць вышэйшую адукацыю.

І вучні сапраўды атрымліваюць добрыя веды. Амаль усе паступаюць ва ўніверсітэты на дзённую бюджэтную форму навучання. Па выніках цэнтралізаванага тэставання камароўская школа на другім месцы ў рэйтынгу школ раёна. У школе працуюць міжшкольныя факультатывы. Яны скіраваныя і на падрыхтоўку да цэнтралізаванага тэставання.

## Вёска пачне паміраць

– Мне вельмі лёгка было працаваць і з настаўнікамі, і з бацькамі, якія заўсёды дапамагалі, калі ў тым была патрэба. Педагагічны калектыў тут вельмі прафесійны, адданы сваёй працы. Дзеці творчыя, лёгкія на пад’ём. Асяроддзе вельмі інтэлігентнае. Калгас ліквідавалі даўно, яго цэнтр перанеслі ў Свір. Па сутнасці, ніхто ў калгас у Свір і не пайшоў.

Цяпер настаўнікам ужо прапанавалі новыя месцы працы. Большасць паедзе ў суседнюю рускамоўную свірскую школу. Некаторым прапанавалі месцы выхавальнікаў груп падоўжанага дня.

**– Што для Камарова будзе значыць закрыццё школы?**

– Як і для любой вёскі, гэта будзе значыць, што яна пачне пакрысе паміраць. Гэта праблема не толькі Камарова. Я разумею, што гэта праблема вёскі наогул. Вось 9 мая ў нас прайшоў мітынг, і ўсе прысутныя падышлі, падзякавалі за апошні мітынг. Школа – цэнтр і культурнага жыцця, і палітычнага, і любога іншага.

## Яны стануць апошнімі выпускнікамі школы

Мы ідзем на ўрок у 11 клас. Усе шасцёра вучняў цяпер на матэматыцы: **Даша Алёшка**, **Ліза Горбач**, **Света Юркевіч**, **Ян Папкоў**, **Вадзім Алянцей**, **Арцём Сіманайць**.

Заняткі вядзе **Алена Дунец**.

Вучаніца рашае задачу на дошцы, астатнія дапамагаюць са сваіх месцаў.

Ім пашанцавала. Сваё навучанне яны скончаць у роднай школе з роднымі настаўнікамі. Правядуць тут свой апошні званок.

А ўся вёска прыйдзе паглядзець на іх. Прыйдзе праводзіць у дарослае жыццё. Прыйдзе паслухаць апошні званок, які стане сапраўды апошнім для кожнага жыхара Камарова.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

# Чаму закрываюць школу

**МЯДЗЕЛ. Гэта тлумачыць начальнік аддзела адукацыі Мядзельскага райвыканкама Таццяна Яфімава.**

Установы адукацыі закрываюцца не толькі ў раёне, але і па ўсёй краіне. Гэта звязана з шэрагам праблемаў: дэмаграфічнай сітуацыяй, якая вядзе да змяншэння колькасці навучэнцаў, павелічэння колькасці малакамплектных школ. Атрымліваецца, што напаўненне ўстаноў адукацыі напросту не адпавядае праектнай магутнасці будынкаў.

За пяць апошніх гадоў колькасць навучэнцаў у школах раёна зменшылася на 527 чалавек. У 2013-2014 навучальным годзе яна склала 2666 чалавек. У сістэме адукацыі раёна сёлета працуе 624 настаўнікі. Такім чынам, на аднаго настаўніка даводзіцца 4,3 вучня.

У трох установах адукацыі колькасць навучэнцаў менш за 50 чалавек:

1. Пузырэўскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы садок-сярэдняя школа (31 вучань, 2,5 на 1 настаўніка)
2. Камароўская сярэдняя школа (38 вучняў, 2,7 на 1 настаўніка)
3. Слабадская сярэдняя школа імя А. Гурыновіча (47 вучняў, 2,4 на 1 настаўніка)

Нарматыў бюджэтнай забяспечанасці выдаткаў на аднаго навучэнца ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі па рэспубліцы складае 1 мільён 370 тысяч рублёў. Па раёне – 24 мільёны і 393 тысячы рублёў.

У вышэй згаданых установах ён у 30-40 разоў перавышае рэспубліканскі паказчык.

Колькасць навучэнцаў у старэйшых класах малакамплектных школ не дазваляе арганізаваць вывучэнне прадметаў на павышаным узроўні, каб задаволіць усе патрэбы старшакласнікаў.

Падчас аптымізацыі на першы план выходзіць праца з кадрамі, арганізацыя падвозу навучэнцаў, адаптацыя іх у новых установах адукацыі.

### Прапаноўвалі іншую беларускамоўную школу

Эканамічны эфект не самае галоўнае: і бацькам, і настаўнікам важна, каб дзеці атрымалі якасную адукацыю, каб яны з добрай базай ведаў выйшлі ў жыццё.

Закрыццё ўстаноў адукацыі і выкладчыкі, і бацькі, і навучэнцы ўспрымаюць вельмі балюча. На гэтым этапе трэба разумець мэтазгоднасць аптымізацыі. Важна, каб бацькі папярэдне пазнаёміліся з тымі навучальнымі ўстановамі, у якіх іх дзеці працягнуць навучанне.

Напружанне сыходзіць, калі яны ўпэўніваюцца ў тым, што прадуманы маршрут падвозу дзяцей, што новая школа добра абсталяваная, што ў ёй ёсць уся сучасная матэрыяльна-тэхнічная база.

Таццяна Яфімава адзначыла, што дзецям і бацькам прапанавалі перайсці як ў рускамоўную школу ў Свіры, так і ў беларускамоўную у Старлыгах. Аднак большасць бацькоў вырашылі адправіць дзяцей у Свір. Магчыма, адна з прычын у адлегласці. Свірская школа ў сямі кіламетрах. А Старлыгі – у 15-і. Аднак падвоз могуць арганізаваць як у адну, так і ў другую школу.




Дашкольнікі у сталоўцы беларускамоўнай школы ў Старлыгах, куды прапануюць перайсці навучэнцам Камароўскай школы.

Цяпер ладзяцца сустрэчы з бацькамі, педагогамі, прадумваецца прафесійны лёс кожнага настаўніка, далейшае навучанне кожнага дзіцяці.

Аптымізацыя ўстаноў адукацыі патрабуе абнаўлення парка школьных аўтобусаў. Штогод упраўленне адукацыі Мінскага аблвыканкама выдзяляе новы аўтобус для падвозу навучэнцаў. Цяпер у аўтапарку 13 аўтобусаў.

### Згодна з пратаколам

Пратаколам пасяджэння Прэзідыума Савета Міністраў Беларусі ад 3 снежня 2013 года даручана Мінадукацыі разам з аблвыканкамамі, райвыканкамамі разгледзець пытанні аб закрыцці альбо рэарганізацыі малакамплектных школ. Камплектаваць 10-я і 11-я класы ў сельскіх школах з колькасцю навучэнцаў не менш за шэсць вучняў, павялічыць напаўняльнасць класаў у гарадскіх школах (25-30 вучняў).

Згодна з гэтым дакументам і з улікам дэмаграфічнай сітуацыі і прагназаваных перспектыў сацыякультурнага і эканамічнага развіцця, сёлета ў раёне закрываюць Камароўскую сярэднюю школу, Пузырэўскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы садок-сярэднюю школу, Мядзельскі міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат працоўнага навучання і прафесійнай арыентацыі.

Таксама рэарганізуюць сярэднюю школу №2 Мядзела ў вучэбна-педагагічны комплекс.

### У Пузырах лічаць, што комплекс трэба было зачыніць год таму

Як заўважыла Таццяна Яфімава, у кожнай вёсцы да закрыцця школы ставяцца па-рознаму.

Яшчэ год таму Пузырэўскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы садок-сярэднюю школу хацелі зачыніць. Аднак тады яшчэ не вызначыліся, што рабіць з будынкам школы. З гэтай прычыны закрыццё адклалі на год.

Сёлета ўжо ўсе ведалі, што комплекс закрыюць. І навіну гэту ўспрынялі спакойна. Некаторыя нават выказваліся, што трэба было яшчэ год таму зачыняць. Бо ўвесь гэты час і настаўнікі, і дзеці, і бацькі жылі ў чаканні.

Іншыя заўважалі, што калі ў школе мала вучняў, то якасць адукацыі зніжаецца. Дзеці не знаходзяцца ў сваім узроставым асяроддзі. Ім нашмат складаней.

Таму шмат хто нават рады закрыццю. Ад змены навучальнай установы людзі чакаюць новага штуршка для далейшага навучання на новым месцы, з новымі вучнямі, з іншымі заняткамі і падзеямі.

**Настасся РОЎДА.**

# Іван Драўніцкі: **“Не трэба пакуль закрываць школу – у вёскі ёсць перспектыва”**

**МЯДЗЕЛ. Іван Драўніцкі кіраваў Куцькаўскай школай (так раней называлася Камароўская) на працягу 35 гадоў.**

І мае сваё меркаванне наконт закрыцця школы:

– Пачну з таго, што ў 1958 годзе ў вёсцы Нарэйшы за два кіламетры ад Камарова набралася 12 дзяцей. І бацькі звярнуліся да ўлады, каб у вёсцы адкрылі пачатковую школу. Загадчык аддзела адукацыі **Павел Новікаў** выказаўся неяк так: “Не для таго ваявалі, кроў пралівалі, каб нашы дзеці хадзілі за два кіламетры па снезе ў школу. Хай у іх будзе шчаслівае дзяцінства”. І школу адкрылі, узялі туды дзвюх настаўніц. Гэта яшчэ вайна не так даўно закончылася, а на дзяцей грошай не шкадавалі.

У адказе з абласнога ўпраўлення адукацыі на зварот бацькоў напісана, што ў 2018 годзе ў школе будзе вучыцца 21 вучань. Але ў пісьме не ўлічаная дынаміка развіцця Камарова. Зараз мы ў дэмаграфічнай яме, і ліцэй пераживае не лепшыя часы – стаў філіялам Вілейскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа. Але не можа так быць, каб магутны навучальны гарадок быллога ліцэя, дзе пяць адміністрацыйных памяшканняў, інтэрнат на 400 месцаў, іншыя збудаванні, 357 гектараў зямлі – будзе закінуты.

Мяркую, нешта прыдумаюць і на базе філіяла адкрыюць. Але ці прыедуць тады сюды маладыя майстры, выкладчыкі, калі тут не будзе школы?

Думаю, што філіял каледжа будзе развівацца, тут збіраюцца ажыццяўляць праграму па вырошчванні экалагічна чыстай прадукцыі. У Камарове тым часам пачынаецца ажыццяўленне праекта па стварэнні і запуску сельскага бізнес-інкубатара, а гэта прадугледжвае стварэнне працоўных месцаў. Таксама зараз у нашай вёсцы мадэрнізуюць ферму, дык работнікаў возяць з Лушчыкаў.

Калі хочам, каб жыла вёска, каб быў хлеб, мяса, малако, – трэба каб у вёсцы жылі людзі. А ім трэба, каб акрамя ФАПа і крамы, была школа.

Іншы аспект. Камарова – незвычайнае месца. Гэта дарога да знакамітых Блакітных азёр, тут захавалася графская сядзіба з паркам. Гэта своеасаблівая візітоўка раёна. Сюды прыязджаюць шматлікія турысты, у тым ліку замежныя. Вось глядзяць: дамы прыгожыя, школка працуе, дзеці праводзяць экскурсіі – усё выдатна. А не стане школы, хто будзе даглядаць гэту тэрыторыю?

Такім чынам, мая думка, што не трэба пакуль закрываць школу – а каб тады два-тры яна пабыла, як ёсць. Думаю, што жыццё прыйдзе да таго, што ўсё-ткі ў Камарове наладзіцца праца філіяла каледжа, будуць вырошчваць экалагічна чыстую прадукцыю, нейкія промыслы развіваць, адкрыюць кафэ для падарожнікаў. Будзе жыццё, будзе і моладзь. Значыць, будуць дзеці – і дзецям будзе зручна, калі тут будзе школа.

А калі закрыем школу, значыць, будзем аўтобусамі дзяцей вазіць. Не кожныя бацькі так захочуць. Паглядзяць – і знойдуць іншае месца для жыцця, паедуць у Смаргонь, Паставы. І тады давядзецца пачынаць усё спачатку – ствараць умовы, інфраструктуру, каб адрадзіць вёску.

Што тычыцца расходаў, то думаю, што Камароўская школа абыходзіцца бюджэту танней за іншую малакамплектную школу. Бо частку паслуг для школы аказваюць працаўнікі філіяла каледжа (прыгатаванне ежы, ацяпленне і гэтак далей).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




Іван Драўніцкі знаёміцца з адказам з упраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.

● ВАЛЕЙБОЛ

# Пройдзе чэмпіянат па пляжным валейболе

**МАЛАДЗЕЧНА. Чэмпіянат Усходняй Еўропы EEVZA па пляжным валейболе пройдзе ў Маладзечне з 16 па 18 мая.**

На міжнародны турнір прыедуць спартсмены з сямі замежных краін, сярод якіх Польшча, Літва, Расія, Эстонія і іншыя.

Пачатак гульняў 16 мая а 12 гадзіне, 17 мая а 10 гадзіне, 18 мая, як мяркуецца, гульня пачнецца ў 11.00.

Дырэктар стадыёна **Аляксей Язневіч** распавёў "Рэгіянальнай газеце", што гэтымі гульнямі распачнецца сезон на пляжным стадыёне:

– Цяпер ідзе падрыхтоўка пяску да новага сезона. За зіму з пяском нічога не зрабілася, ён не прасеў і не сапсаваўся. Была іншая праблема. Па ўсёй тэрыторы спартыўных пляцовак насеяўся клён. Першы наш так званы суботнік быў цалкам прысвечаны прапалцы стадыёна. Перад самім турнірам таксама правядзём паўторнае "вызваленне" стадыёна ад "няпрошаных гасцей".

Сёння ўжо над стадыёнам навесілі тэнты, умацавалі валейбольныя стойкі. Засталося нацягнуць сеткі, але гэта зробім непасрэдна перад стартам чэмпіянату.

Хутка пасля валейбола наш стадыён прыме чэмпіянат па пляжным футболе, але інфармацыя пра гэта з'явіцца пазней.

Пакуль жа на стадыёне трэніруецца мясцовая валейбольная каманда.

**Наталля ТУР.**




**Пляжны валейбол – відовішчны від спорту. На мінулагоднім чэмпіянаце свету ў Маладзечне.**

● ФУТБОЛ

## Аляксандр Гармаза: гэтая каманда яшчэ наробіць шолаху

**МАЛАДЗЕЧНА. Гульня супраць каманды з Чэрвеня адбылася ў Дзень Перамогі на гарадскім стадыёне і скончылася перамогай гаспадароў з лікам 4:0**

Каментуе матч трэнер каманды "ДЗЮСШ-4" **Аляксандр Гармаза**:

– Калі пачаўся першы тайм, мы нават падумаць не маглі, што гульня скончыцца з такім лікам. Каманда "Колас-Чэрвень" была для нас "цёмным конікам". У гэтым сезоне ў камандзе з'явілася дзевяць абсалютна новых гульцоў, з якімі мы раней не сустракаліся. У першым тайме нашы госці стварылі два вельмі небяспечныя моманты. Але першы раз мяч трапіў у штангу, другі ўдар прыйшоўся вышэй варотаў.

**– Дык чаму перамагла каманда з Маладзечна? Проста пашчасціла?**

– У нашай каманды амбіцыі былі значна вышэйшыя. І літаральна за пятнаццаць хвілін (першы мяч трапіў у вароты саперніка прыкладна на 10 хвіліне другога тайма) лік гульні стаў такім, які стаў. І потым, каб каманда не расслаблялася, лік гульні мог стаць проста непрыстойным.

**– Хто забіваў у вароты "Коласа"?**

– **Сяргей Лавор, Аляксей Вышынскі**. Дубль афарміў **Дзмітры Вышынскі.**

**– Калі вылучаць кагосьці з каманды, хто заслугоўвае асаблівай адзнакі?**

– У гэтым выпадку, адназначна, гульню зрабіла каманда. І Сяргей Лавор, мяркую, забіў гол не без дапамогі **Юрыя Бугая**, які зрабіў дакладную перадачу. Ды і астатнія гульцы каманды папрацавалі добра. Я скажу так: гэтая каманда ў сезоне яшчэ наробіць шмат шораху.

**Наталля ТУР.**

● НАВІНЫ

### ФК «Маладзечна-2013» сыграў унічыю з дзяржынскай "Лівадзіяй"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Матч трэцяга тура другой лігі чэмпіянату Беларусі адбыўся ў Дзяржынску 10 мая.

У першым тайме маладзечанцы саступалі з лікам 1:0. Ці дрэнная надвор'е перашкодзіла (падчас матчу ішоў дождж), ці памылка варатара ( па словах заўзятараў, што прысутнічалі на матчы).

У другім тайме каманда "Маладзечна-2013" значна дадала і ў хуткасці, і ў стварэнні вострых момантаў.

Маладзечанцы зраўнялі лік матча, дзякуючы штрафному ўдару Андрэя Лявончыка. Але вырваўца наперад так і не здолелі.

Матч скончыўся з лікам 1:1. Наступная гульня каманды адбудзецца 18 мая на гарадскім стадыёне. Супраціўнікам ФК "Маладзечна-2013" будзе ФК "Клецк".

**Наталля ТУР.**

### "Вілія" ідзе другой у чэмпіянаце вобласці па футболе

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН.** Другі тур чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе прайшоў 9 мая. У групе "А" "Валожын-2010" прайграў "Забудове-2007" з лікам 1:3. "Маладзечна-ДЮСШ-4" дома абыграла 4:0 "Колас" з Чэрвеньскага раёна.

"Вілія" з Вілейкі атрымала другую перамогу запар: з лікам 5:1 у гасцях абыграла "Крупкі-ДРБУ-164".

"Вілія" ўзнялася на другое месца ў групе, а іх гулец **Віктар Сяліцкі** – у ліку лепшых бамбардзіраў турніру. Ён забіў тры галы.

"Маладзечна-ДЮСШ-4" пакуль на пятым, "Забудова-2007" – на шостым, а "Валожын-2010" на дзявятым, перадапошнім, месцы.

### Першыя ачкі "Смаргоні"

**СМАРГОНЬ.** Пасля трох пройгрышаў футбольны клуб "Смаргонь" нарэшце набраў ачкі. У Светлагорску 7 мая смаргонцы падзялілі ачкі з мясцовым "Хімікам". Лік сустрэчы – 0:0.

А дома 11 мая "Смаргонь" перамагла "Мінск - 2" з лікам 2:1. У смаргонцаў галы забілі Калінін (на 70-й хвіліне) і Сямёнаў (на 73-й). Сапернікі адквіталі адзін гол ў канцы матчу.

– Галоўным вынікам матчу з'яўляецца тое, што мы здабылі першую перамогу ў чэмпіянаце, – пракаментаваў гульню сайту fc-smorgon.by галоўны трэнер "Смаргоні" **Павел Бацюта**. – Спадзяюся, што гэты вынік зробіць нас псіхалагічна больш упэўненымі і паслужыць новым эмацыйным штуршком для каманды напярэдадні двух хатніх гульняў з клубамі "Іслач" і "Смалявічы-СТІ".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КАЛЕЙДАСКОП

### Ідзе гульня на выбыванне

**ВІЛЕЙКА.** На мінулым тыдні завяршыліся гульні ў групах на Кубак Вілейскага раёне па футболе.

– Амаль усе гульні праходзілі ва ўпартай барацьбе, – падкрэсліў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

У групе "А" першае месца на рахунку "Буддэталяў", у групе "Б" лідарам стала "Крыніца" з Маладзечна.

### Каманда "Зубраня" ўзяла рэванш за чэмпіянат

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 4 мая прайшоў "Кубак выклікy". Сустрэліся дзве лепшыя каманды чэмпіянату раёна па міні-футболе: чэмпіён (каманда Мядзела) і уладальнік другога месца (каманда НДЦ "Зубраня"). Прадстаўнікі цэнтра "Зубраня" здолелі ўзяць рэванш за пройгрыш у чэмпіянаце: абыгралі мядзяльчан з лікам 9:5.

– Гульня была прыгожая, – адзначыў дырэктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра Міхаіл Чаркасаў. – Гульцы каманды "Зубраня" – маладзейшыя, і яны проста перабегалі саперніка. Ды і варатар іх добра гуляў.

### Прайшлі спаборніцтвы па ракетамадэльным спорце

**ВІЛЕЙКА.** На палетку каля вёскі Нароча 3 мая прайшлі спаборніцтвы па ракетамадэльным спорце.

– У спаборніцтвах прынялі ўдзел чатыры каманды навучэнцаў з Людвінаўскай і Нарацкай сярэдніх школ, якія займаюцца ў гуртках па ракетамадэліраванні цэнтра дадатковай адукацыі, – паведаміў метадыст установы **Анатоль Прыц.**

Першае месца заняла каманда Нарацкай сярэдняй школы ў складзе **Глеба Фіткевіча і Аляксандра Міклуша.**

### Завяршаецца барацьба за пуцёўкі

**ВІЛЕЙКА**. Трэці тур традыцыйнага турніру па міні-футболе на штучным пакрыцці прайшоў 11 мая.

У першай групе ўжо вядома адна каманда, якая будзе змагацца за высокія месцы – "Шылавічы". Другая пуцёўка можа дастацца ці "Першаму Беларускаму" ці "Прадпрымальніку".

У групе "Б" на дзве пуцёўкі прэтэндуюць "Мая сям'я","Воўкаўшчына" і "Юнацтва". У групе "В" лепшыя каманды ўжо вызначыліся: "Юніёр" і "Крыніца" з Маладзечна. У апошняй групе дзве пуцёўкі разыграюць "Рубін", "Буддэталі", "вул. Талстога".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Стварэнне хакейнай каманды "Дынама-Маладзечна" абыдзецца ў 20 мільярдаў рублёў

Такі прыклад найбольш яскрава падае кантраст з маладзечанскім футболам. ***Андрэй.***

### Першыя заняткі "Мовы Нанова" ў Маладзечне сабралі 60 чалавек (Фотагалерэя, дадалося відэа)

О, Глеб падпрацоўвае ў "Лівіа" афіцыянтам) Па першай фотачцы выснова))) Як бы кажа дзяўчатам: "Што будзеце замаўляць?" ***Альжбэта.***

Было весела і прыемна, цікава. Можна было проста адпачываць і купацца ў беларускамоўным атачэнні і дабразычлівасці. Можна было нарэшце без сораму размаўляць на трасянцы. Панавала атмасфера дабрыні. ***Tadzik.***

### Еўрабачанне: сёння за Беларусь разам з Тэа выступіў маладзечанец (Відэа)

Ніякіх асаблівых прыбамбасаў, але выступілі добра. Стрымана і артыстычна, і такія мілыя хлопчыкі, яшчэ і з Маладзечна. Віншуем! Эш.

Я лічу, што Тэа ў фінале, таму што ў Еўропе пачалі ўжо забываць, як павінен выглядаць сапраўдны мужчына!!! Сярод барадатых баб, мужыкоў у сукенках, трансвеститаў, фрыкаў і г. д. Тэа і хлопцы як глыток свежага паветра і радасць для вачэй еўрапеек) Ура) + беларуская месяцавая паходка. Малайцы) Еўрапейка.

Толькі Польшча) Лепшы выступ усяго Еўрабачання. ***Мужык.***

Згодны... Польшча лепшая... асабліва тая, што з карытам. Спявачка магла і не выходзіць. ***Mikel.***

Калі ўжо Беланогую адправім? ***М.***

### Маладзечанец дапамог Тэа выйсці ў фінал Еўрабачання (Відэа)

Калі б ён увайшоў у першыя тры... Тады можна было б ганарыцца, а так, проста, "малайчына", што ўвайшоў у фінал... Калдун таксама ўвайшоў і хоць шостае месца... Мдя. ***Аляксандр.***

З такімі "першыма трыма", асабліва з "першым першым", то і выдатна, што ён так далёка! ***ІМл.***

### Марскія жывёлы выцясняюць з кватэры настаўніка экалогіі

Апантаны, цікавы чалавек. Поспехаў Вам, Дзмітры, хай Ваша мара стане рэальнасцю ў бліжэйшы час. Артыкул чытаецца з захапленнем, адкрываеш для сябе новую інфармацыю. Таксама дзякуй Наталлі за інтэрв'ю з выдатным чалавекам. ***Святлана.***

### Маладзечна. Каб следчыя гулялі ў брыдж, злачынствы раскрывалі б паспяхова

Сапраўды, гэта жывы прыклад, што ёсць такія яшчэ справядлівыя і чэсныя людзі, якія не даруюць памылак нікому і ніколі, і не толькі сыну, але нават начальству. Не маюць выгады, але маюць ад гэтага толькі павагу і гонар, і чэсць. ***Франак.***

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 2 | | 3 |
| 2 | 7 | | 3 | | | | 6 | |
| | | 5 | | | 4 | 7 | | |
| 4 | | | 8 | | | | | 7 |
| | 1 | | | 6 | | | 3 | |
| 5 | | | | | 1 | | | 9 |
| | | 4 | 1 | | | 5 | | |
| | 5 | | | | 8 | | 9 | 2 |
| 6 | | 1 | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталі ПУР.

**9 Мая на вуліцах Маладзечна ад самай раніцы было шматлюдна. Нехта выбраўся ў горад, каб паўдзельнічаць ва ўрачыстасцях і ўскласці кветкі да помнікаў, а нехта задаволіўся добрым надвор'ем і проста гуляў у парку. Фотарэпартаж са свята глядзіце на сайце rh.by.**

## ● РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

Фантастычны экшн "**Гадзіла**", 3D (ЗША, Японія, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
16 мая – 21:00
17 мая – 18:00, 21:00
18 мая – 15:00, 18:00
19-22 мая – 21:00
Кошт білета – 45.000-55.000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Кот Гром і зачараваны дом**", 3D (ЗША, Бельгія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
16 мая – 16:00
17-18 мая – 13:00
20 мая – 19:00
22 мая – 19:00
Кошт білета – 30.000 рублёў.

Фантастычны баявік, прыгоды "**Новы чалавек – павук: Высокае напружанне**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
16 мая – 18:00
17 мая – 15:00
18 мая – 21:00
19 мая – 18:00
21 мая – 18:00
Кошт білета – 45.000-55.000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Аэратачкі**" (ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
16 мая – 17:00
17-18 мая – 15:00
Кошт білета – 15.000 рублёў.

Меладрама "**Бабруйск-Дакар**" (Беларусь, 2014, да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
17-18 мая – 17:00
Кошт білета – 25.000 рублёў.

Меладрама "**Уік-энд у Парыжы**" (Вялікабрытанія, 2013, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
16-18 мая – 19:30, 21:30
19 мая – 21:30
20 мая – 19:30
21-22 мая – 21:30
Кошт білета – 35.000 рублёў.

Драма "**Адзін дзень**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2011, да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
20 мая – 21:30
21-22 мая – 19:30
Кошт білета – 35.000 рублёў.
Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на май**

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

Цыркавая клаўнада для дзяцей і дарослых "**Цырк, цырк, цырк!**" (*Мікіта Благаў*)
25 мая, нядзеля – 12:00

**Гастролі магілёўскага абласнога драматычнага тэатра**

Музычная казка "**Шматкі па закавулачках**" (*Рыгор Осцер*)
27 мая, аўторак – 10:30, 12:40
28 мая, серада – 10:30, 12:40

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

Камедыя ў 2-х дзеях "**Камедыя**" (Уладзімір Рудаў)
16 мая, пятніца – 19:00

**Гастролі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра**

Неверагодная гісторыя ў 2-х дзеях "**Мужчына да свята**" (*Надзея Птушкіна*)
27 мая, аўторак, сцэна Палаца культуры –19:00

Праграма аўтарскай песні, выкананне вядомых хітоў. Творчы вечар Віталя Качаткова "**Дзякуй, сэрца!**"
29 мая, чацвер – 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17.**
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## ● ГАРАСКОП

**(16-22 МАЯ)**



**Авен.** Радуйцеся падарункам лёсу і прымнажайце іх. Не бярыце на сябе абавязацельствы, якія высмоктваюць з вас энергію.



**Цялец.** Ваша папулярнасць павышаецца не толькі на рабоце, але і далёка за яе межамі. Нечакана з'явяцца даўнія знаёмыя, пра якіх вы даўно ўжо і забыліся. Магчыма, яны чакаюць ад вас нейкай паслугі, але і самі змогуць дапамагчы. Гэта добры знак.



**Блізняты.** Цяпер актывуецца падсвядомасць, могуць быць яркія і важныя сны. Звярніце на іх увагу, можа, менавіта ў іх вам даецца нейкая падказка.



**Рак.** "Пасяліце" ў сваім сэрцы любоў, мяняйцеся самі да лепшага, і тады вы будзеце аказвацца ў патрэбным месцы ў патрэбны час.



**Леў.** У вас ёсць запаветная мара, але яна надта глыбока ляжыць у вас унутры, трошкі выцягвайце яе наверх, сілкуйце яе сваёй энергіяй, уяўляйце, і яна абавязкова збудзецца.



**Дзева.** Не прымярайце на сябе вобраз сапраўднага дамашняга тырана! А то вы як быццам дакладнае ведаеце, што кожнаму трэба рабіць. Ад гэтага ўзнікнуць толькі праблемы.



**Шалі.** Памятайце старую прыкмету, што сабака прыходзіць у дом да поспеху ў кар'еры, а кошка прыносіць з сабой любоў. Можа, вы і не хочаце заводзіць дома ніякай жывёлы, але ўсё ж задумайцеся.



**Скарпіён.** Хтосьці з вашага акружэння ў сваіх роздумах дасць вам падказку ўнікальнага вырашэння даўняй праблемы. Будзьце ўважлівыя.



**Стралец.** Поспех літаральна зваліцца вам на галаву, прычым не толькі ў сферы кар'еры, але і ў шмат якіх іншых – без увагі не застанецца і ўласнае жыццё.



**Казярог.** Будзьце вышэй за непрыемныя дробязі і не забывайце пра пачуццё гумару – яноператворыць трагедыю ў камедыю і засцеражэ ад сварак.



**Вадалей.** Вы проста абавязаны ўнесці ў сваё жыццё новы струмень! Любыя пачынанні будуць падтрыманыя. І ведайце, што пазітыўныя думкі здольныя збывацца.



**Рыбы.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што "кажа" інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

**Камент-эксперт**

**Rh.by**

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

## ● НАДВОР'Е

**17 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 +16 | | +14 +19 | | +16 +22 | | +17 +21 | |
| | 7444 | ↙ 10 | 742 | ↙ 9 | 739 | ↖ 1 | 741 | ↓ 6 |
| Вільня | +8 +12 | | +11 +15 | | +13 +18 | | +13 +20 | |
| | 755 | ↙ 8 | 752 | ↙ 8 | 746 | ← 5 | 750 | ← 1 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.04
Захад 21.14
Даўжыня дня 16.10

Усход 23.56
Захад 7.29
Квадра 3




## ● ПРЫКМЕТЫ

- Цвіце чаромха. "Маўра (16 мая) холад прыносіць".
- Як дуб лісце разгорне – чакай халадоў.
- Калі на Ёва (19 мая) вялікая раса і ясны дзень – будзе добры ўраджай агуркоў.

## ● ЭКСПЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ, МЯДЗЕЛЕ, ВІЛЕЙЦЫ

# У якія гульні вы гуляеце?



**Вольга Бурцава, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Часцей за ўсё цяпер гуляю ў ладкі, яшчэ пазлы складаем з дзецьмі, матрошкі, пірамідкі збіраем і гуляем у дзіцячы боўлінг. На дарослыя гульні часу зусім няма.



**Сяргей Карзей, акцёр, Маладзечна:**

– Галоўная мая гульня, вядома, адбываецца на сцэне. А так зрэдку і ў камп'ютэрныя гульні гуляю. Напрыклад такія, дзе трэба шарыкі аднаго колеру збіраць.



**Аляксандр Галоўскі, навучэнец, Маладзечна:**

– Я гуляю толькі ў камп'ютарныя гульні. Люблю гульні, дзе вольны свет і поўная свабода дзеянняў, такія як GTA, напрыклад. На іншыя часу, на жаль, няма. Вучоба і трэніроўкі па плаванні штодзень.



**Вольга Багдановіч, перакладчык, Маладзечна:**

– Гуляю на тэлефоне ў гульню 100 да 1. Летам гуляю ў валейбол. Даўно шахматамі не займалася, а так гэтую гульню таксама люблю.



**Дзяніс Каралькевіч, студэнт, Маладзечна:**

– Я ў гульні даўно ўжо не гуляю. Зрэдку, калі збіраемся вялікай кампаніяй, гуляем у картачную гульню "Уна".



**Ігар Шабан, старшыня раённай федэрацыі футбола, Вілейка:**

– Магу ў валейбол, баскетбол, настольны тэніс, бадмінтон, шашкі, шахматы пагуляць. Але найчасцей – у футбол. У міні-футболе – і на варотах, і ў абароне гуляю, у футболе – абаронцам.



**Пётр Дурэйка, пенсіянер, Мядзел:**

– У юнацтве ў футбол, валейбол гуляў. А цяпер толькі разам з унукамі: ці мяч паганяем, ці ў лато, даміно, настольныя гульні гуляем.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР, Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Чытайце праз тыдзень:

● **Камунальныя прыгоды маладзечанкі і яе суседа працягваюцца. Вырашаем жыллёвыя пытанні.**

## ● А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

Хакейная шайба можа развіць хуткасць да 190 кіламетраў у гадзіну.

***

Пасля выкanання гульцом хет-трыка (тры галы аднаго гульца) заўзятары кідаюць на лёд галаўныя ўборы – часцей за ўсё, гэта кепкі.

***

68 % прафесійных хакеістаў страцілі на лёдзе як мінімум адзін зуб.

***

Першы рэсурфейсэр (машына для залівання лёду) быў прыдуманы амерыканцам Франкам Замбоні ў 1945 годзе, пад імем якога зараз выпускаюць такія самыя машыны.

***

Хакейная шайба выраблена з вулканізаванай гумы і важыць 200 грамаў. Перад пачаткам гульні яе замарожваюць, каб не спружыніла.

***

Слова "хакей" мае французскія карані. Назва гульні адбылося ад слова "hoquet", якое азначала " пастуховы посах ".

***

Большасці невядома, што першая шайба для хакея мела форму квадрата.

***

У 2000 годзе Марцін Бродэр – варатар "Нью-Джэрсі Девілз" узяў Кубак Стэнлі ў кінатэатр для таго, каб есці з яго папкорн.



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 20 (994) 16.05.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 420. Падпісана ў друк у 10.00 15.05.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.